—*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
31
МАЯ
1991 г.
№ 22 (3588)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

## ЦІ ЁСЦЬ ШАНЦ ПЕРАМАГЧЫ?

**Уладзімір СТАРЧАНКА: «...Ніхто нам не дасць на адраджэнне не толькі 25, але і трох гадоў... Таму, каб гарантаваць беларускаму народу тыя, безумоўна, патрэбныя для натуральнага адраджэння, 25 гадоў, трэба ўжо зараз рашуча абудзіць яго нацыянальнае пачуццё, стварыць надзейную процівагу антыдэмакратычнай імперскай экспансіі».**

СТАРОНКА 4.



## У КРАІНЕ СВЕТЛАЙ, ЛЯ СІНЯЙ БУХТЫ

**У Ялце прайшло свята беларускай культуры з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча.**

СТАРОНКА 5.

## КРАСА І ВОЛЯ

СТАРОНКІ 6—7.

**МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ: ІМЁНЫ І ФАКТЫ**

## «БАЦЬКУ АРЫШТАВАЛІ 13 ЛЮТАГА 1937 ГОДА...»

СТАРОНКА 13.

## ТВОРЦА РУХУ БЕЛАРУСКАГА

**Лёс Івана Луцкевіча.**

СТАРОНКІ 14—15.



## ЭКСГУМАЦЫЯ ГІСТОРЫІ

**Аляксандр ЛУКАШУК: «Бальшавікі ніколі не былі большасцю, ніколі за імі не ішла большасць насельніцтва краіны. Незаконна, падманам і сілай зброі захапіўшы ўладу ў зручны момант («Учора рана, заўтра будзе позна» — узор «навуковага» падыходу да аб'ектыўнай, па Марксу, змены фармацый), яны толькі сілай зброі і падманам маглі яе ўтрымаць, насаджваючы атынародную утопію...».**

СТАРОНКА 16.



Народная артыстка БССР І. Душкевіч у дуэце з Ю. Раўкуцем («Лебядзінае возера»).
Фота В. ДРАЧОВА.

# «Зорка» сярод «зорак»

У беларускага балета шмат прыхільнікаў. Ёсць яны сёння і ў розных краінах свету — гастролі групы пад кіраўніцтвам В. Елізар'ева зрабіліся апошнім часам рэгулярнымі, маршруты іх пралеглі праз экзатычныя краіны Бліжняга Усходу, Азіі, дасягнулі і прэстыжных для мастацтва еўрапейскіх сталіц...

Поспех спектакляў — гэта і поспех «зорак» нашага балета. Высокі ўзровень трупы сёння шмат у чым вызначаецца творчым аблічкам нашай маладой прыма-балерыны Інесы Душкевіч. Гэтую самаадданую ў мастацтве артыстку з першых жа яе сцэнічных работ заўважылі, падтрымалі, палюбілі і публіка, і крытыка. І «ЛіМ»...

Сёння многія ходзяць у тэатр менавіта «на Душкевіч» — ці то ў афішы «Карміна Бурана» К. Орфа, ці то «Лебядзінае возера» П. Чайкоўскага, ці то «Вясна свяшчэнная» І. Стравінскага, ці то «Рамэа і Джульета» С. Пракоф'ева... І таму нашых тэатралаў парадавала нядаўняя навіна: вядучай салістцы балета ДАВТа БССР — артыстычнай, адухоўленай, абаяльнай Інесе Душкевіч нададзена ганаровае званне народнай артысткі рэспублікі. Віншуем Інесу з гэтай высокай адзнакай яе таленту, майстэрства, творчых набыткаў і жадаем паспяховых выступленняў перад гледачамі Югаславіі, куды днямі выправіўся з гастролямі беларускі балет.

С. Б.

# «СІЛА, БРАТ, У ГРАМАДЗЕ...»

**23 мая ў Міністэрстве юстыцыі БССР зарэгістравана яшчэ адна партыя — Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада. Міністр юстыцыі Л. Дашук уручыў старшыні Цэнтральнай Рады БСДГ М. Ткачову рэгістрацыйнае пасведчанне № 90, павіншаваў яго з пачаткам жыцця партыі, мэты якой вызначаны гэтак: стварэнне гуманнага, дэмакратычнага грамадства на аснове шматукладнай эканомікі, сцвярджэнне прынцыпаў свабоды асобы, сацыяльнай справядлівасці і салідарнасці, адраджэнне асноў духоўнасці народа, дасягненне і адстойванне палітычнай незалежнасці Беларусі як раўнапраўнага члена еўрапейскага і сусветнага супольніцтва.**



Гэты момант і зафіксаваў фотааб'ектыў Ул. КРУКА.

## НА ПАВАРОЦЕ

# ЧЫЙ РЭЗІДЭНТ СТАНЕ ПРЭЗІДЭНТАМ?

Леху Валенсе, каб стаць прэзідэнтам Польшчы, спатрэбілася дзесяць гадоў назад пералезці праз цагляную агароджу Гданьскай верфі і ўзначаліць забастоўку, якая запачаткавала рух «Салідарнасці».

Памятаецца, прыблізна ў той час з вуснаў у вусны ў нас перадавалася вершаня, якое напаўжартам пагражала — «будзе, як у Польшчы». Што ж, мабыць, і сапраўды толькі народ ведае ўсё. Сёння, калі кошт «талоннай» гарэлкі балансуе якраз на ўзроўні чырвонца, рабочыя ўзбунтаваліся, сакратары ЦК трызняць надзвычайным становішчам, а прэзідэнцкія выбары ўвайшлі ў моду.

Хутка і наш Вярхоўны Савет *будзе разглядаць* законапраекты аб прававым рэжыме надзвычайнага становішча, аб пераразмеркаванні паўнамоцтваў паміж вышэйшымі дзяржаўнымі органамі, а таксама аб заснаванні пасады Прэзідэнта Беларускай ССР і ўнясенні *адпаведных змен у канстытуцыю*.

Паводле вынікаў сацыялагічнага даследавання, апублікаваных нядаўна газетай «7 дней», 62 працэнты апытаных мінчан лічаць заснаванне прэзідэнтуры неабходным, прычым 70 працэнтаў выказваецца *за тое, каб прэзідэнта выбірала ўсё* насельніцтва рэспублікі. Сярод дэпутацкага корпусу прыблізна такая ж карціна, пра што ўскосна сведчыць галасаванне аб уключэнні адпаведнага пытання ў парадак дня чарговай сесіі — супраць выказалася 118 народных абраннікаў (прыблізна трэцяя частка).

Так, на карысць прэзідэнцкага праўлення можна прывесці шмат довадаў. Тым больш, што сістэма Саветаў, якім меркавалася перадаць «усю ўладу», апынулася нават не ў крызісе, а ў глухім тупіку. Інстытут прэзідэнцтва, паўнакроўна ўвасоблены, сам прэзідэнт, які атрымаў бы мандат ад усяго народа, — маглі б карэнным чынам рэфармаваць заканадаўчую і выканаўчую ўлады, стварыць самастойную судовую ўладу і эфектыўнае мясцовае самакіраванне.

Згадаем, аднак, што прэзідэнцтва на саюзным, а цяпер вось і на расійскім узроўні ўводзілася, як толькі «выспяваў» той ці іншы палітычны лідэр. Некалі мы казалі «прэзідэнт», а мелі на ўвазе Гарбачова, тое самае зараз і з Ельцыным. У гэтым, вядома, ёсць сякая-такая логіка, калі заплюшчыць вочы на тое, што мы па-ранейшаму знаходзімся ў заганным коле, падганяючы законы пад пэўных асоб і пэўныя палітычныя сітуацыі. Сядзець на даху і латаць яго, калі ўжо зруйнаваны падмурак, — занятак марны і небяспечны.

Сёння Беларусь, на жаль, не мае лідэра, вакол якога згуртаваліся б усе людзі (ці большасць з іх), якія жывуць на гэтай зямлі. Сёння Беларусь, на жаль, не мае суверэнітэту. Навошта ж Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы — прэзідэнт? Дзеля чаго, ствараючы новую канстытуцыю, кроіць-перакройваць стары Асноўны закон, ды яшчэ заклікаць шанаваць яго? Якіх яшчэ паўнамоцтваў хоча партыя, якая і так мае большасць у парламенце, а таксама мела магчымасць сфарміраваць урад? Ці па плячы ношка?

Не можа не насцярожваць той факт, што ўсе гэтыя пажарныя захады па заснаванню прэзідэнцкай пасады робяцца пад акампанемент, так бы мовіць, «надзвычайшчыны». Напрыклад, у напрацоўках да законапраекта аб пераразмеркаванні паўнамоцтваў паміж вышэйшымі дзяржаўнымі органамі Прэзідыуму ВС мяркуецца даць дадаткова правы на абвяшчэнне мараторыя на забастоўкі, мітынгі і «іншыя дзеянні, якія дэстабілізуюць становішча ў рэспубліцы». Яшчэ больш сурова гучаць радкі праекта закона аб надзвычайным становішчы, які надзяляе ўрад паўнамоцтвамі ў залежнасці ад канкрэтных абставін забараняць правядзенне забастовак, сходаў, мітынгаў, уводзіць асобы рэжым работы прадпрыемстваў, ставіць пад кантроль сродкі масавай інфармацыі, прыпыняць дзейнасць палітычных партый, грамадскіх арганізацый і масавых рухаў — тых, вядома, якія «перашкаджаюць нармалізацыі становішча». Ёсць нямала іншых прыкладаў таго, што ў нас сур'ёзна ўзяліся за справу «*навядзення канстытуцыйнага парадку*» (А. Малафееў).

...Пад час красавіцкіх забастовак стала вядома пра існаванне ў Савеце Міністраў упраўлення па пытаннях правоў грамадзян, грамадскай бяспекі і абароннай работы (!). У дакуменце, распрацаваным гэтым упраўленнем, сярод іншага прапануецца «решить вопрос об усилении охраны проходных и территорий крупных промышленных предприятий, имея в виду пресечение *любых попыток* проникновения через ограждения и проходные предприятий посторонних лиц».

А вы кажаце — Валенса...

Андрэй ГАНЧАРОЎ.

# ЗАКЛІК ПАЧУТЫ

На XXII Усесаюзнай канферэнцыі прыхільнікаў міру, якая па традыцыі праходзіла ў Маскве, ухвальна было сустрэта выступленне члена Беларускага камітэта абароны міру, галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» С. Законнікава. Ён звярнуўся да калег з усіх рэспублік — сабраць сухафрукты і арэхі для дзяцей, што пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Гэтыя прадукты, як паказалі даследаванні вучоных, садзейнічаюць ачышчэнню арганізму ад радыенуклідаў, дапамагаюць аднаўленню яго ахоўных функцый, паляпшаюць здароўе.

На зварот С. Законнікава першай адгукнулася грамадскасць Джызанскай вобласці Узбекскай ССР, дзе праведзена дабрачынная акцыя сярод школьнікаў, у выніку якой сабрана некалькі тон сухафруктаў і арэхаў.

Днямі ў Мінск прыбыло два самалёты з Ташкента, што прывезлі больш чым 4 тоны 800 кілаграмаў каштоўнага грузу. Яго суправаджалі намеснік старшыні Джызанскага абласнога камітэта абароны міру і абласнога аддзялення фонду міру Мухамад Эргашаў і намеснік старшыні Мірзачульскага райвыканкома, старшыня раённага камітэта абароны міру Марыя Сафарава.

Прадукты перададзены ў дзіцячае аддзяленне Беларускага інстытута анкалогіі і медыцынскай радыялогіі, Мінскае таварыства дзяцей-дыябетыкаў, Івянецкі дзіцячы дом.

Чакаюцца чарговыя дарункі ўзбекскіх дзяцей.

НАШ КАР.

НАШЫ ГОСЦІ

# З ДАБРАЧЫННАЙ МІСІЯЙ

Народны пісьменнік Янка Брыль у 1968 г. па запрашэнні інда-савецкага культурнага таварыства наведаў паўднёвы штат далёкай краіны — Майсур (тагачасная назва штата Карнатака). З яго лёгкай рукі ўсталяваліся і развіваюцца плённыя сувязі паміж парodненымі гарадамі Мінскам ды Бангалорам (сталіца штата), ажыццяўляецца культурны і навуковы абмен. Калі боль Беларусі ад чарнобыльскай катастрофы выклікаў спагаду ды салідарнасць ва ўсім свеце, індыйскія сябры таксама прыйшлі на дапамогу нам. Згадаем, што ўвесну самалёт АН-124 «Руслан» даставіў дабрачынны дар беларускаму народу — 105 тон медыкаментаў і харчовых пасылак. А днямі да нас з дабрачыннай місіяй прыехала юная выканаўца індыйскага рытуальнага танца Бхарат-нац'ям, лаўрэат студэнцкага конкурсу Паўднёвай Індыі Лакшмі Гопаласвамі. Разам з ёю прыехалі яе бацькі.

Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі сумесна з Фондам Рэрыха ладзіць дабрачынныя канцэрты ў фонд Чарнобыля. Канцэрты адбудуцца ў Мінску, Баранавічах, Нясвіжы, Гарадзеі, Пінску, Гомелі, а таксама на Украіне. Рытуальны танец Бхарат-нац'ям склаўся каля 200 гадоў таму і тлумачыцца як мастацтва свяшчэннае, прасвятляючае дух. Танец заснаваны на матэрыяле папулярных эпічных паэм «Махабхарата» і «Рамаяна», міфах ды легендах. Лакшмі гаворыць: «Танец вымагае строгай дысцыпліны, выконваць яго — свяшчэнны абавязак. Гэта малітва».

А. РАМАНОВІЧ.

# «НАША НІВА» ВЫХОДЗІЦЬ ЗНОЎ

«Наш адрасат... — людзі, якія маюць звычку абдумваць жыццёвыя сытуацыі, маюць смак да лёгікі й прыгоства мовы, маюць прагу да жыцьця. Гэткім людзям мы абяцаем у кожным нумары — маленькае асабістае сьвята».

Так шматабяцальна і аптымістычна звярнулася да чытачоў рэдакцыя адноўленай «Нашай Нівы», першы нумар якой днямі выйшаў у свет. Сярод аўтараў газеты — У. Арлоў, С. Астраўцоў, Г. Сагановіч, І. Бабкоў, А. Чобат, А. Мінкін, В. Акудовіч і іншыя.

Зычым калегам поспехаў — на нашай агульнай ніве!

# ЁСЦЬ НОВЫ САЮЗ!

Нечарговы з'езд Музычнага таварыства БССР, які адбыўся 29 мая ў Мінску, стаўся фактычна ўстаноўчым з'ездам новай супольнасці. Пасля справаздачнага даклада, з якім выступіў старшыня праўлення МТ М. Дрынеўскі, былі абмеркаваны вынікі амаль чатырохгадовай працы таварыства і прынята рашэнне — стварыць Саюз музычных дзеячаў Беларусі. З'езд зацвердзіў статут СМДБ і абраў яго кіруючыя органы. Старшынёй праўлення стаў народны артыст БССР М. Дрынеўскі.

Больш падрабязна пра гэтую падзею «ЛіМ» раскажа ў адным з наступных нумароў.

Н. К.

АДГАЛОСКІ

# МОВА — ПА-НАД ПАЛІТЫКАЙ

Пытанні моўнай рэформы намінальна і ў самым агульным выглядзе пазначаны ў «Дзяржаўнай праграме развіцця беларускай і іншых моў у Беларускай ССР» ад верасня 1990 г. Канкрэтнымі ж распрацоўкамі, як паказвае друк і практыка, чынна займаюцца самастойныя даследчыкі: адзінкавыя аспіранты, аматары-лінгвісты, публіцысты, спрабуюць нешта сказаць палітычныя дзеячы. Навуковыя калектывы адпаведных акадэмічных інстытутаў мэтава ў гэтым рэчышчы пакуль што не працуюць, або грамада пра гэта проста не інфармавана.

Дарэчы, амаль усе палітычныя згвалтаванні роднай мовы, пачынаючы ад 1933 г., праводзіліся вераломна і непублічна, беларусаў проста ставілі «перад фактам», і нашы бацькі вымушаны былі перыядычна расшчапляць сваю свядомасць, а разам з ёю і нацыянальны менталітэт. Перапісвалі ў новых рэдакцыях свае творы і пісьменнікі...

Сёння ў горан нацыянальнага духу, які толькі распальваецца, аддаюць свой інтэлект найбольш руплівыя сучаснікі. Менавіта такія людзі прыйшлі на нараду «Пытанні рэформы беларускага правапісу», якую 16 мая зарганізавала суполка ТБМ імя Ф. Скарыны АН БССР. У зале Цэнтральнай навуковай бібліятэкі сабраліся прадстаўнікі ці не найбольш тыповых падыходаў да пытанняў моўнай рэформы. Свецкасць, інтэлектуальнасць нарады паспрыялі спакойнаму абмену думкамі, развагам, узаемнай спагадлівасці, творчай натхнёнасці.

Даклады падрыхтавалі: кандыдат філалагічных навук, супрацоўнік часопіса «Нёман» С. Запрудскі, супрацоўнік Інстытута мовазнаўства АН БССР Я. Войніч, аспірант Інстытута філасофіі і права АН БССР С. Санько, супрацоўнік часопіса «Спадчына» В. Вячорка, доктар філалагічных навук Г. Цыхун, кандыдат біялагічных навук Я. Стапановіч, кандыдат філалагічных навук А. Яскевіч. ТБМ імя Ф. Скарыны ў хуткім часе плануе выдаць матэрыялы дакладаў і палемікі асобнай брашурай.

Ці не ўсе даследчыкі станоўча ацэньвалі правапіс да 1933 г., крытыкуючы пэўныя моманты. Але палеміка, адказы на пытанні высветлілі наступную рознасць падыходаў да сучасных моўных навацый: ад радыкальных уводзін элементаў правапісу да 1933 г. і ўвогуле тэрміновага рэфармавання сучаснай мовы да першаснага грунтоўнага даследавання моўнага працэсу, абапіраючыся на семантычна-філасофскую метадалогію. У гэтым роскідзе рэпрэзентатыўна прагучалі даклады В. Вячоркі і С. Санько. Апошні ў інтэрв'ю «ЛіМу» засведчыў, што якраз метадалагічных распрацовак па самой філасофіі мовы ў нас не зроблена, і нельга базаваць моўную рэформу хай на зразумелых і прымальных, але недастаткова метадалагічна абгрунтаваных нормах Б. Тарашкевіча, Я. Лёсіка, Я. Станкевіча, В. Пашкевіч і г. д. С. Санько лічыць неабходным перш-наперш даследаваць феномен беларускай мовы як лінгвістычна-знакавай субстанцыі, яе генезіс і эвалюцыю.

Доктар Г. Цыхун у падрабязным доследзе сусветных моўных традыцый праблематычна завастрыў тэзіс аб тоесным правядзенні фанетычнага прынцыпу ў сферы правапісу. На яго думку, спрашчэнне правапіснага нармавання да «як чуецца, так і пішацца», абсалютызацыю гутарковай мовы можна кваліфікаваць як моўны мадэрнізм, даведзены да абсурду, як вынік ненавуковага падыходу да рэфармавання мовы. Няведанне розніцы паміж марфемамі і фанемамі, грэбаванне гнасеалогіяй іх засваення чалавечай свядомасцю выліваецца ў ненавуковыя практыкаванні, лічыць вучоны.

Вылучыць усярэдненую навукова-практычную стратэгію ў пытанні моўнай рэформы нельга, на маю думку, без комплекснага задзеяння фундаментальнай навукі: і філалогіі, і філасофіі і псіхалогіі. Сёння патрэбен звяз разнастайных навуковых дысцыплін — лінгвістыкі, сацыёпсіхалогіі, культуралогіі, каб даследаваць нашу мову не як адзін з прагматычных сродкаў кансалідацыі нацыі, а самадастатковую лінгвістычна-знакавую субстанцыю, не залежную ад палітычных выгод.

Юрась ЗАЛОСКА.

# Прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі



ІЛЬЮШЧЫЦ Кастусь Мікалаевіч. Паэт. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў мястэчку Наваельня Дзятлаўскага раёна. Скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут імя С. М. Кірава (1968) і Усурыйскае вышэйшае ваеннае аўтамабільнае каманднае вучылішча (1971). Падпалкоўнік. Камандзір адной з часцей у Прыбалтыйскай ваеннай акрузе.

Літаратурную працу пачаў у 1965 годзе.

Выдаў кнігі паэзіі «Армейскія будні» (1977) і «Таежны гарнізон» (1982).

●

КІРЫЛАЎ Герман Іларыёнавіч. Празаік. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў г. п. Шаркоўшчына. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна (1959). Уласны карэспандэнт газеты «Віцебскі рабочы» ў Полацку.

Літаратурную працу пачаў у 1974 годзе.

Аўтар кнігі прозы «Падлётак» (1983), рамана «Пах жыта» (1989), публікацый у перыёдыцы і калектыўных зборніках.

●

КУДЛАЧОЎ Віктар Сымонавіч. Дзіцячы пісьменнік. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Сласцёны Горацкага раёна. Скончыў Гродзенскае музычнае вучылішча (1958). Працуе настаўнікам музыкі і спеваў для сляпых дзяцей і дзяцей, якія слаба бачаць, у Гродне.

Літаратурную працу пачаў у 1980 годзе.

Аўтар кніг «Я расту» (1981) і «Я сам» (1986).

●

МЕЛЬЧАНКА Таісія Васільеўна. Паэт, празаік. Нарадзілася ў 1947 годзе ў вёсцы Маркавічы Гомельскага раёна. Скончыла Гомельскі дзяржаўны універсітэт (1970). Настаўніца беларускай мовы і літаратуры СШ № 53 г. Гомеля.

Літаратурную працу пачала ў 1963 годзе.

Аўтар кнігі «Бацькоўскі дом» (1989), шэрагу публікацый у калектыўных зборніках паэзіі.

●

ПІСАРЫК Алесь (ПІСАРЧЫК Аляксандр Уладзіміравіч). Нарадзіўся ў 1954 годзе ў Мінску. Паэт. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна. Працуе эканамістам па забеспячэнні тралейбуснага дэпо № 4 г. Мінска.

Літаратурную працу пачаў у 1972 годзе.

Адзін з аўтараў калектыўнага зборніка «Нашчадкі» (1979). Выдаў кнігі паэзіі «Белы май» (1983) і «Дажджы яравыя» (1990).

●

СЦЯПАН Уладзімір (СЦЕПАНЕНКА Уладзімір Аляксандравіч). Празаік, паэт. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў г. п. Касцюкоўка на Гомельшчыне. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава (1977) і Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (1983). Рэдактар літаратурна-драматычнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання.

Літаратурную працу пачаў у 1986 годзе.

Выдаў кнігі прозы «Сам-на-сам» (1990) і «Вежа» (1990). Аўтар публікацый у калектыўных паэтычных і празаічных зборніках.

●

ТУМАШ Генадзь. ТУМАС Генадзь (Тумас Яўген Зміtравіч). Паэт, празаік, перакладчык. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Кукшавічы Дзяржынскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна (1964). Намеснік дырэктара Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР.

Літаратурную працу пачаў у 1963 годзе.

Выдаў кнігу паэзіі «Лінкос» (1970), нарыс «Родны бераг песняра» (1982). Аўтар шэрагу публікацый у калектыўных паэтычных і перакладных зборніках.

ДУМКА ЧЫТАЧА

# ЦІ ЁСЦЬ ШАНЦ ПЕРАМАГЧЫ?

Падзеі апошняга часу пераконваюць, што лёс Беларусі, лёс дэмакратыі будзе вырашаны ў бліжэйшыя некалькі месяцаў. Ва ўсякім разе, зараз закладваецца асноўная тэндэнцыя развіцця нацыянальных і агульнапалітычных працэсаў на наступнае дзесяцігоддзе. Трэба адзначыць, што на Беларусі вынікі рэферэндуму аб захаванні СССР у значнай ступені вызначылі напрамак будучых падзей, узровень нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, што выклікала нават разгубленасць у пэўнай часткі інтэлігенцыі. Між тым, лічыць вынікі рэферэндуму безумоўнай перамогай старога мыслення, камуністычнай ідэалогіі, поглядаў нацыянальнага нігілізму нельга. Для яшчэ ўчора нацыянальна індыферэнтнай Беларусі, у варунках прапаганды ў прэсе і, асабліва, на краўчанкаўскім тэлебачанні, 16 працэнтаў адказаўшых «не» і каля 20 працэнтаў увогуле праігнараваўшых апытанне—з'ява, пагадзіцеся, надзвычайная. З'ява гэтая сведчыць аб абуджэнні нацыянальнай самасвядомасці ў значнай часткі нашага народа, якая зразумела, што нацыянальныя інтарэсы беларусаў — гэта не адно і тое ж, што інтарэсы КПБ, КПСС, Цэнтра і нават Расіі, што здзяйсненне мэтаў «Вялікай Расіі» — гэта смерць для беларусаў. А пабудова чарговага сацыялізму пад кіраўніцтвам КПСС-КПБ — гэта зноў усеагульны дэфіцыт і знясільваючыя чэргі. Людзі разумеюць, што далейшая інтэграцыя народнай гаспадаркі пад уладай Цэнтра — гэта ўсталяванне і «развіццё» эканамічна заганных сувязей, бо яны перш за ўсё павінны падмацоўваць пазіцыі Цэнтра, а ўжо потым, калі атрымаецца, спрыяць развіццю вытворчасці.

На жаль, пакуль не ўсе беларусы гэта разумеюць, і таму сваёй нацыянальнай несвядомасцю мы зноў асудзілі сябе і сваіх нашчадкаў на пакуты за чужыя інтарэсы.

Зразумела, што вынікі рэферэндуму будуць, як кажуць, на поўную шпульку выкарыстаны Цэнтрам і мясцовымі антынацыянальнымі сіламі на чале з кіраўніцтвам філіі КПСС, каб падавіць нацыянальны рух, знішчыць рэшткі дэмакратыі. Нельга не заўважыць, што гэты працэс пачаўся задоўга да 17 сакавіка, але менавіта цяпер, атрымаўшы «падтрымку народа», ён набывае сапраўдную моц. Што ж рабіць у гэтых варунках беларускім дэмакратам? Ці ёсць у іх шанцы перамагчы ці нават захаваць пазіцыі ў гэтым процістаянні?

Здаецца, шанцы гэтыя невялікія. Па-першае, дэмакраты самі па сабе ў саюзе толькі з агульначалавечымі каштоўнасцямі ва ўмовах недэмакратычнай дзяржавы з'яўляюцца лёгкай здабычай для бальшавікоў. Дастаткова некалькі прэзідэнцкіх указаў ці загадаў чырвоных палкоўнікаў, каб галоснасць, а разам з ёй і законнасць канчаткова сканалі. Па-другое, дэмакратычны рух на Беларусі, мала таго, што кволы, не мае вялікай падтрымкі сярод насельніцтва, дык яшчэ і раз'яднаны. Тыя спробы аб'яднання дэмакратычных партый, якія назіраюцца апошнім часам, не выглядаюць пераканаўча. Па-трэцяе, што галоўнае, дэмакратычная ідэя ў нас не мае выразнага спалучэння з ідэяй нацыянальнай. Нельга сцвярджаць, што дэмакраты зусім не звяртаюць увагі на нацыянальнае пытанне, але ўвага гэтая катастрафічна недастатковая. Між тым, менавіта нацыянальная ідэя, калі яна авалодвае масамі, з'яўляецца той рэальнай сілай, што здольна процістаяць дыктату Цэнтра, ідэалагічнаму наступу КПСС. Падзеі ў прыбалтыйскіх рэспубліках гэта яскрава пацвердзілі. Лёгка сабе ўявіць, як бы ўсё павярнулася, напрыклад, у Літве, калі б там панаваў не цывілізаваны нацыяналізм, а нацыянальны нігілізм накшталт беларускага.

Толькі арганічнае спалучэнне дэмакратычнай ідэі з нацыянальнай можа ўдыхнуць жыццё ў дэмакратычны рух, зрабіць яго жыццяздольным у варунках таталітарнай ці неататалітарнай сістэмы. Глыбока памыляюцца тыя дэмакраты, якія лічаць магчымым ігнараваць нацыянальныя інтарэсы, заўчасна абвяшчаюць прыярытэт агульначалавечых каштоўнасцей над нацыянальнымі. Але прыярытэт агульначалавечых каштоўнасцей у чыстым выглядзе — гэта прывілея незалежных, моцных нацый, на роўных уваходзячых у міжнародную супольнасць. Гаротная Беларусь, на жаль, не мае правоў на гэтую прывілею і каб іх атрымаць, яна, перш за ўсё, павінна ўзняцца з каленяў, здзейсніць сваё агульначалавечае права на незалежнасць. Не можа быць свабодны чалавек, калі ён належыць да несвабоднай нацыі, таму барацьба за агульначалавечыя каштоўнасці зараз — гэта барацьба за незалежнасць Беларусі, за адраджэнне нацыянальнай культуры, за прыярытэт нацыянальных каштоўнасцей. Тут няма ніякай супярэчлівасці, бо толькі перамога нацыянальна-дэмакратычнага руху можа гарантаваць жыхарам Беларусі роўныя правы незалежна ад класавых, расавых і рэлігійных адзнак.

Даруйце, але дазвольце акрэсліць прыярытэтныя напрамкі дзейнасці беларускіх дэмакратаў усіх нацыянальнасцей, калі толькі яны не жадаюць стаць напаўзабытымі героямі чарговай адлігі.

Першы і галоўны напрамак — абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Для гэтага патрэбна абвясціць часовы прыярытэт нацыянальных каштоўнасцей, мэтанакіравана выхоўваць цывілізаваны беларускі нацыяналізм, рашуча змагацца з праявамі пячорнага беларускага інтэрнацыяналізму (чытай — нацыянальнага нігілізму).

Добра ведаю, што гэты напрамак можа быць аспрэчаны часткай беларускай інтэлігенцыі. Тут у ходу сумесь ідэй касмапалітызму з тэорыямі вялікіх ідэолагаў рэфарматарства Каўцкага, Бернштэйна і іншых. Тут у ходу разважанні аб паступовым, расцягнутым на дзесяцігоддзі, працэсе адраджэння нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, павольнага ўліцця ў агульнаеўрапейскую супольнасць. Але разважаць так зараз — гэта рыхтаваць труну ўласнымі рукамі. Трэба добра разумець, што мы ў адрозненне ад Каўцкага жывём не ў свабоднай і дэмакратычнай краіне, што ніхто нам не дасць на адраджэнне не толькі 25, але і трох гадоў, што, можа, ужо заўтра ад рэштак галоснасці і дэмакратыі застанецца толькі ўспамін. Таму, каб гарантаваць беларускаму народу тыя, безумоўна патрэбныя для натуральнага адраджэння, 25 гадоў, трэба ўжо зараз рашуча абудзіць яго нацыянальнае пачуццё, стварыць надзейную процівагу антыдэмакратычнай імперскай экспансіі.

Некаторая частка беларускіх дэмакратаў з надзеяй пазірае на Маскву, на Расію, чакаючы, што там у хуткім часе адбудуцца незваротныя дэмакратычныя змены, якія будуць адначасова гарантыяй для няўхільнай дэмакратызацыі і беларускага жыцця. Але спадзяванні гэтыя, здаецца, марныя.

Нягледзячы на відавочныя дасягненні дэмакратычнай плыні ў Расіі, яе перамога ў бліжэйшыя гады выглядае нават больш праблематычнай, чым на Беларусі. Справа ў тым, што калі нацыянальная ідэя беларусаў—гэта ідэя нацыянальна-вызваленчая, што добра ўзгадняецца з сапраўды дэмакратычнымі ідэямі, то нацыянальная ідэя рускіх — гэта ідэя месіянства, ідэя неабмежаванай экспансіі на Усход і на Захад, а такая ідэя, згадзіцеся, антыдэмакратычная, абаперціся на яе рускія дэмакраты не змогуць. Перамога нацыянальнага руху ў Расіі наўрад ці будзе адначасова і перамогай дэмакратычнай плыні. Таму спадзявацца нам на Расію няма падстаў, спадзявацца трэба на Беларусь, на яе народ.

Другі напрамак—далучэнне да беларускай справы людзей іншых нацыянальнасцей, якія жывуць сумесна з беларусамі. Трэба зрабіць усё магчымае, каб яны не адчувалі сябе ўбаку ад падзей, не бачылі ў адраджэнні самасвядомасці беларусаў пагрозу сваім жыццёвым інтарэсам. Справа гэтая цяжкая, але неадкладная, бо як сведчыць вопыт іншых рэспублік, менавіта на гэтую частку насельніцтва робяць стаўку антынацыянальныя і антыдэмакратычныя сілы. Каб не паўтараць памылак тых жа прыбалтаў, неабходна адначасова з пашырэннем працы па абуджэнні нацыянальнага пачуцця беларусаў разгарнуць шырокую дэмакратычную акцыю. Гэта згуртавала б жыхароў розных нацыянальнасцей. Аднак такое магчыма тады, калі небеларускае насельніцтва ў большасці сваёй усвядоміць, што яго лёс, дабрабыт, уласныя нацыянальныя перспектывы цалкам залежаць ад перамогі беларускага нацыянальнага руху, што толькі ў незалежнай дэмакратычнай Беларусі прадстаўнікі ўсіх нацыянальнасцяў нарэшце перастануць саромецца сваёй нацыянальнай прыналежнасці, змогуць ажыццявіць свае культурныя і рэлігійныя запатрабаванні.

Вядома, што сярод рускага насельніцтва Беларусі ёсць нейкая частка, якая лічыць сябе вышэйшай расай, мае месіянска-акупанцкую псіхалогію, свядома шкодзіць працэсу нацыянальнага і культурнага адраджэння Беларусі, актыўна садзейнічае асіміляцыйным захадам. Нельга талерантна адносіцца да тых, хто свядома спрыяе заняпаду дзяржаўнасці беларускага народа. Трэба актыўна ствараць грамадскую думку непрымальнасці ідэі манкуртызму, ідэі антыбеларускасці наогул. Але пачуццё нацыянальнай годнасці не можа і не павінна засноўвацца на знявазе прадстаўнікоў іншых народаў. Толькі ўсведамленне сябе роўным сярод роўных робіць народ цывілізаваным.

Як паветра патрэбна сёння эдзіная моцная дэмакратычная плынь, добраахвотнае, хай і часовае, аб'яднанне накірунку дзейнасці ўсіх дэмакратычных партый, грамадскіх суполак і асобных грамадзян. У пэўнай меры працэс аб'яднання ідзе і зараз, але надта марудна. Між тым час не трывае, яго нават няма. Калі яго прамарнаваць, то шукаць вінаватых магчымасць будзе, а вось выпраўляць памылкі — не.

Абнадзейвае дзейнасць па аб'яднанні дэмакратычнага руху з боку БНФ, але працэс павінен паскарацца і пашырацца. А вось кіраўніцтву асобных дэмакратычных партый варта часова адкінуць уласныя амбіцыі як самагубныя ў сучасных варунках, узяцца за выпрацоўку агульнай стратэгіі дзейнасці. Усё гэта можна і павінна рабіць, не страчваючы ўласнай самастойнасці і індывідуальнасці.

Паўстае пытанне аб'яднання не толькі партый, але і асобных грамадзян, што можа зрабіць наш рух сапраўды масавым, народным. Уступленне ў партыю не для ўсіх прымальнае выйсце, хоць, шчыра кажучы, больш актыўная прапаганда статутаў і мэтаў дэмакратычных партый здольна пашырыць партыйныя рады. І ўсё ж такі шмат хто не ўступае ў партыі, не жадаючы абмяжоўваць сябе партыйнай дысцыплінай ці па іншай прычыне, часам проста хвалюючыся за дабрабыт уласнай сям'і. Дзейнасць гэтых людзей можа быць аб'яднана, як зараз модна казаць, на ментальным узроўні.

Агульнапалітычныя варункі на Беларусі значна больш складаныя, чым падаецца ў гэтых разважаннях. Акрамя нацыянальнага пытання існуюць класавыя, рэлігійныя і іншыя супярэчнасці, што значна ўскладняе аналіз становішча. Але з усіх рухаў менавіта нацыянальна-вызваленчы, калі ён сальецца з дэмакратычным і ахопіць большасць насельніцтва, можа зрабіцца сапраўднай сілай, што здзейсніць надзею нашага народа на годнае жыццё. Таму заклік усіх сапраўдных дэмакратаў Беларусі сёння — гэта заклік «Жыве Беларусь!».

**Уладзімір СТАРЧАНКА.**

г. Гомель.

# У КРАІНЕ СВЕТЛАЙ, ЛЯ СІНЯЙ БУХТЫ

**У Ялце прайшло свята беларускай культуры, прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння Максіма БАГДАНОВІЧА**




Мора ў гэтыя дні было не надта бурлівае, але ўсё яшчэ не летняе. Сонца таксама было яшчэ, зразумела, не летняе, ды *вясна* тут не *абы-якая, а* ўсё ж паўднёвая, і таму на пляжах ужо сёй-той загараў, а самыя нецярплівыя спрабавалі і купацца. Людна і на гарадскіх вуліцах, у тым ліку і на той, дзе жыў у далёкім семнаццатым ён і якая зараз носіць яго імя...

Максім прыехаў сюды ў лютым. Дабіраўся доўга, затрымліваючыся на вялікіх і малых станцыях. Асабліва даймалі перасадкі, якія часам доўжыліся не адну і не дзве гадзіны. Най*больш даўся ў знакі* Бахмач. Нават надзею было страціў, што калі-небудзь выберацца адтуль. Але, як гэта заўсёды бывае, любому чаканню прыходзіць канец. Урэшце ўдалося дабрацца да Сімферопаля, а пасля і ў Ялту. Не адразу пашанцавала і тут — ажно чатыры дні шукаў кватэру. Не таму, што вельмі пераборлівым быў,— бядота *прымушала. Нарэшце*, здаецца, адшукаў тое, пра што марыць заставалася. Хтосьці з прахожых, убачыўшы яго, схуднелага, змарнелага, гатовага зваліцца з ног, успомніў пра Марыю Цямко, гаспадыню невялікага двухпавярховага дамка, што не цуралася трымаць кватарантаў.

Хутка адшукаў гэты дамок пад нумарам восем. Спадабаўся і дамок, і гаспадыня—рухавая, гаваркая. Будучы кватарант прыйшоўся ёй даспадобы: сціплы, стрыманы. Гаспадыня пусціла яго ў светлы, прасторны пакой на другім паверсе. Праз некалькі тыдняў, асвоіўшыся, ён дзяліўся радасцю са сваім стрыечным братам па бацькавай лініі П. Гапановічам: «Знайшоў добры пакой з самастойным ходам, вокны на мора, цудоўны краявід, паўдня свеціць сонца, ёсць балкон, вакол дома сад...» Праўда, выказаў і зане*пакоенасць: «Баюся аднаго*—ці не пашкодзіць блізкасць да мора: дом на гары, але да мора сажняў трыццаць-сорак».

Ён прыехаў сюды лячыцца, але—мінаў дзень, другі, пяты, а здароўе не паляпшалася, нават пагоршылася. І надвор'е гнілое... А яшчэ гэтыя пакутлі*выя і нязменныя думкі аб род*ным краі, аб яго лёсе.

...Халодны, пранізлівы вецер працінаў да касцей, але ён не адварочваўся ад яго. Стаяў *ля* самой кромкі вады, адчуваў тварам салёныя пырскі. Ведаў: нельга рабіць яму гэта. Апошнім часам сухоты абвастрыліся, павышаецца тэмпература, зусім аслаб, але нейкая нябачная, незразумелая яму сіла цягнула сюды, да марской стыхіі, з якой хацелася зліцца, паяднацца. Шэрыя цяжкія хмары паўзлі па небе. «Божухна,— мільгнула думка,— і скуль уся гэтая стыхійная неўтаймаванасць у жыцці? У адных усё добра, ладзіцца, а другім, каб жыць, каб выжыць... Ды і не сяму-таму, а ўсяму народу!»

З роздуму вывела хваля, што набегла ажно на чаравікі. Ён схамянуўся—нельга прамочваць ногі, заспяшаўся назад, ва ўтульны дамок, у цяпло, якое яго толькі і ратавала...

На жаль, дамок, у якім правёў ён свае апошнія дні, не захаваўся. Знік бясследна. Мо і з-за нашай нядбайнасці, з-за таго, што своечасова не парупіліся, не патурбаваліся. Захаваўся, праўда, другі дом, у якім да рэвалюцыі знаходзіўся пансіянат на малочнай ферме пад назвай *«Шалаш» і дзе паэт лячыўся* пад час свайго першага прыезду ў Ялту, у 1909 годзе. Цяпер гэта дом нумар два па вуліцы яго імя. Амаль поруч з музеем А. П. Чэхава, так званай Белай дачай...

А на гарадскіх могілках буяе і красуе жыццё. Паўсюль зеляніна кіпарысаў і пальмаў, мноства кветак. Максімаву магілу адразу і не адшукаеш. Калі хавалі яго, гэта была самая ўскраіна могілак. Адпелі ў царкве *Аляксандра Неўскага* (працуе і зараз, толькі апынулася ў самым цэнтры горада) і пахавалі. Месца трапілася не надта ўдалае. Як гаварыў Адам Ягоравіч Багдановіч, бацька паэта, «ліўні і патокі з другога боку могілак лёгка маглі размыць магілу». Бацька не паспеў на пахаванне сына, прыехаў пазней. Ён парупіўся, каб за магілай Максіма назіралі: наняў вартаўніка, пакінуў грошай М. Цямко, *каб пасадзіла кіпа*рысы і ружы. Праўда, калі ў 1924 годзе тагачасны Інстытут беларускай культуры камандзіраваў у Ялту А. Александровіча, А. Вольнага і У. Дубоўку, тыя не ўбачылі ні кіпарысаў, ні ружавага куста. Больш таго, сама магіла зраўнялася з зямлёй. З дапамогай сыноў вартаўніка, карыстаючыся пры гэтым апісаннем А. Багдановіча, знайшлі магілу. Трошкі пазней паставілі на ёй сціплы помнічак, *які* стаіць і цяпер. Бянтэжыць не толькі залішняя сціпласць яго, а і чырвоная зорка, выбітая ўверсе. Пара, даўно пара паставіць на магіле песняра сапраўдны помнік, варты яго ўкладу ў нацыянальную літаратуру, культуру наогул...

Цесным гуртам акружылі магілу ўдзельнікі свята. Прачулыя словы сказалі тут В. Каваленка, А. Лойка, В. Іпатава, старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па друку А. Бутэвіч, народная артыстка БССР М. Захарэвіч—словы прызнання, удзячнасці, пашаны да велічы таленту паэта. Выступалі і ялцінскія дзеткі. Вучні сёмага класа 10-й ялцінскай школы Андрэй Вакуноў, Міша Бараздзін, Максім Носаў, Вова Петражыцкі любяць творчасць нашага земляка, ведаюць яго жыццё. У некаторых з іх беларускія карані. Скажам, дзед Андрэя Вакунова Іларыён Іванавіч—беларус, і ён часта расказвае ўнуку пра свой родны край. Ёсць беларусы і сярод настаўнікаў. Перад вучнямі і педагогамі выступіла Н. Загорская, правяла тут багдановічаўскі ўрок, паабяцала дзецям і настаўнікам наладзіць сувязі з мінскай школай нумар 40, якая носіць імя М. Багдановіча. Вучні-ялцінцы ўзялі шэфства над магілай.

Багдановічаўскі ўрок прайшоў і ў школе № 1. Правялі яго В. Іпатава, В. Зуёнак, Н. Загорская, В. Каваленка, А. Лойка, Г. Пашкоў.

Адкрылася ў Ялце і выстаўка, прысвечаная жыццю і творчасці паэта. Яе наладзілі супрацоўнікі багдановічаўскага музея. Размясцілася яна ў Ялцінскім дзяржаўным аб'яднаным гісторыка-літаратурным музеі, побач з пастаяннай экспазіцыяй «Леся Украінка і Крым». На адкрыцці выстаўкі выступіў намеснік міністра культуры БССР У. Гілеп. Ялцінцаў і адпачываючых клікалі ў музей чароўныя гукі цымбалаў—гэта выступалі цымбалісткі з Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага...

(Працяг на стар. 12).




Магіла Максіма Багдановіча.



Слова пра Максіма-Кніжніка гаворыць Алег Лойка.




Якое свята без... «Свята»!



Госці ў Місхоры.



Дзеткі з чарнобыльскай зоны слухаюць Генадзя Пашкова.

МУЗЫКА

# ЗНАЁМЦЕСЯ: ГРОДЗЕНСКІ КАМЕРНЫ!

**Кажуць, што калі горад захаваў сваю гісторыю, то ён захаваў і душу. Але, на жаль, у нашай шматпакутнай Беларусі, якая неаднойчы палала ў вогнішчах ваенных пажараў, разбуралася як чужынцамі, так і сваімі, не многія гарады маюць магчымасць ганарыцца даўнінай, прапануючы наведаць старажытныя замкі і храмы, паблукаць па брукаваных вуліцах, дзе кожны дом — позірк у мінулае...**

Гродзенцам у гэтым сэнсе пашанцавала. Але ж гісторыя— гэта, вядома, не толькі старадаўняя архітэктура, а і духоўныя і культурныя традыцыі. І захоўваць іх, на маю думку, яшчэ больш важна і, безумоўна, нялёгка, бо іх нельга адбудаваць, як старадаўнюю вежу ці кляштар, нельга аднавіць, як карціну, ці надрукаваць факсімільным выданнем, як кнігу. Іх трэба адраджаць у сэрцы, у розуме, у душы, у жыцці.

Якое ж дачыненне ўсё гэта мае да Гродзенскага камернага аркестра? Самае непасрэднае. Бо стварэнне ў Гродне такога калектыву — не проста цікавая падзея, вартая ўвагі музычнай грамадскасці, але і яскравы факт духоўнага адраджэння колішніх традыцый музычнай Гродзеншчыны.

**А традыцыі былі сапраўды багатыя. Як нагадвае літаратура, яшчэ ў 1543 г. у Гродне польскім каралём Зігмундам Аўгустам была заснавана так званая «літоўская капэла», у якую к пачатку стагоддзя ўваходзіла каля пятнаццаці музыкантаў і спевакоў. Гэты калектыў быў адным з першых аркестраў на тэрыторыі Беларусі. На працягу XVIII ст. у Гродне існавала капэла езуіцкай бурсы, рыхтавала музыкантаў у асноўным з ліку тутэйшага люду. Яна адыгрывала значную ролю ў музычным жыцці горада, бо не толькі абслугоўвала набажэнствы, але і выконвала свецкія творы.**

**Адным з лепшых у свой час лічыўся Гродзенскі тэатр Антонія Тызенгаўза, падскарбія надворнага Літоўскага. У 70-я гады XVIII ст. там ставіліся оперы і балеты, даваліся канцэрты. Дзейнічала музычная школа, у якой выхоўваліся будучыя артысты тэатра і аркестра. Капэлай кіраваў мясцовы музыкант, скрыпач-віртуоз, Лявон Сітанскі. Паказчыкамі вышэйшага ўзроўню трупы Тызенгаўза з'яўляюцца, напрыклад, такія факты: пра аркестр добра адгукаліся нават у такім буйным музычным цэнтры, як Мангейм, а многія салісты балета пасля распаду тэатра бліскуча выступалі на варшаўскай сцэне.**

**У пачатку XIX ст. у Гродне працаваў тэатр С. Дэшнер, які, акрамя драматычных спектакляў, ставіў і оперныя, у яго рэпертуары была вядомая опера Дж. Паізіэлы «Служанка-пані». У 40-х гадах папулярнасцю карыстаўся аматарскі аркестр, створаны вялікім энтузіястам музычнага мастацтва, кампазітарам і фалькларыстам, выканаўцам і педагогам І. Дабравольскім. У праграме калектыву былі ў асноўным творы венскіх класікаў. Дарэчы, з аркестрам неаднаразова выступала перад землякамі Тэафіля Юзафовіч-Бароўская, таленавітая скрыпачка, чый творчы шлях таксама пачынаўся на берагах Нёмана.**

Многае яшчэ можна ўспомніць — і пра Таварыства аматараў драматычнага і музычнага мастацтва, у якое, паводле некаторых звестак, уваходзіў бацька М. Багдановіча, і пра гастролі ў Гродне такіх знакамітасцяў, як В. Давыдаў, С. Рахманінаў і інш. Ці пра тое, што непадалёк ад Гродна, у Слоніме, блістаў славуты тэатр Міхала Агінскага, а ў Дзярэчыне па запрашэнні Сапегаў працаваў сам В. Жыўны, настаўнік Шапэна.

Словам, гродзенцам ёсць чым ганарыцца і, канешне, ёсць што адраджаць. Гэта ведалі і разумелі многія музыканты, якіх непакоіў стан культурнага жыцця роднага горада. Сапраўды, чаму, маючы шмат добрых выканаўцаў, таленавітых энтузіястаў сваёй справы, трэба абавязкова чакаць гастралёраў, каб атрымаць асалоду спаткання з цудоўным мастацтвам? Чаму не паспрабаваць самім?! І яны спрабавалі, выступалі сольна і ў ансамблях, удзельнічалі ў канцэртах, урачыстых, і не надта, мерапрыемствах, але жыла думка пра аркестр. Не пакідала яна і кампазітара Андрэя Бандарэнку, *аднаго з тых*, хто стаяў «ля калыскі» калектыву.

**— Ідэя стварэння камернага аркестра,— гаворыць А. Бандарэнка,— з'явілася яшчэ некалькі гадоў таму, пад час існавання ансамбля старадаўняй музыкі «Канчэнта». Але тады нас не падтрымалі, не стала і «Канчэнта», усё з той самай прычыны — адсутнасць падтрымкі, як маральнай, так і матэрыяльнай. Ды, у рэшце рэшт, наш голас пачулі і пайшлі насустрач...**

Так, і за гэта трэба шчыра падзякаваць найперш Гродзенскаму гарвыканкому, гарадскому аддзелу культуры, бо пачулі «крык душы» музыкантаў. Вядома, які цяпер час. І добра, што ў Гродне глядзяць у перспектыву і ў горадзе цяпер ёсць свой камерны аркестр. Дык што ж ён з сябе ўяўляе?

У складзе яго каля дваццаці музыкантаў, у асноўным выкладчыкі музычных устаноў, выхаванцы Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, аднадумцы, аб'яднаныя любоўю да музыкі, імкненнем іграць, даючы радасць і асалоду сабе і слухачам. Аснова аркестра— струнныя інструменты, ёсць яшчэ флейта, габой, валторна, клавесін. Кіруе Гродзенскім камерным Арон Гендэльман, сур'ёзны і таленавіты музыкант. У свой час ён працаваў з духавым аркестрам Гродзенскага музвучылішча, які неаднаразова займаў высокія месцы на розных конкурсах, фестывалях, аглядах і г. д. Шчыра кажучы, была нейкая занепакоенасць: духавік па адукацыі, кларнетыст — на чале струннага (у асноўным) складу? Цяжкасці, безумоўна, былі, але ўсё ж майстэрства і самааддачасць як дырыжора, так і музыкантаў, вялікая творчая праца даволі хутка далі добрыя вынікі.

З поспехам прайшла яго прэзентацыя (2 канцэрты) у Гродне, у зале Рэспубліканскага музея гісторыі рэлігіі. Праграма, якую вяла музыказнаўца С. Калчанава, складалася з твораў славутых І.-С. Баха, А. Вівальдзі, А. Карэлі, беларускіх кампазітараў Л. Абеліёвіча, П. Альхімовіча і ў цэлым, калі не лічыць некаторых нязначных агрэхаў, была выканана на высокім прафесійным узроўні. (Аркестру ж на дзень прэзентацыі было ледзьве больш за тры месяцы!). Нядрэнна прагучала «Арыя» Баха, яго ж Двайны скрыпічны канцэрт рэ мінор (салісткі Н. Трухан і Т. Сухоцкая), «Лета» з вядомага цыкла «Поры года» Вівальдзі (саліст А. Сматрыцкі). З лёгкасцю і настроем прагучалі часткі з Сюіты сі мінор Баха (саліст— флейтыст А. Шчэрба). Што датычыцца твораў беларускіх аўтараў, то Concerto grosso № 2 П. Альхімовіча не надта ўдалося аркестру (дзеля справядлівасці заўважу, што і сам твор не вельмі прывабны). А вось «Арыя» Л. Абеліёвіча, напэўна, многіх прысутных у зале прымусіла змяніць свае адносіны да беларускай музычнай спадчыны (а яны, шчыра кажучы, не самыя лепшыя). Натхнёна і эмацыянальна сыграная Н. Трухан, гэтая цудоўная музыка без сумнення закранула самыя патаемныя пачуцці слухачоў. Аказваецца, не толькі Бах ды Вівальдзі пісалі шэдэўры! А колькі іх яшчэ, нам не вядомых, пыліцца дзе-небудзь на паліцах бібліятэк ці, хутчэй за ўсё, рукапісных архіваў?!

**— Музычнае асветніцтва, актывізацыя канцэртнага жыцця на Гродзеншчыне і, канешне, галоўнае — прапаганда беларускай музыкі, найперш нашага земляка А. Бандарэнкі,— гэтак вызначае творчыя мэты калектыву яго мастацкі кіраўнік.**

Так, аркестр глядзіць у будучыню. Аднак, прабачце банальнасць, каб жа ён быў, каб толькі зноў не павісла ў паветры, а затым не растварылася ў небыцці добрая справа! Ну, а з канкрэтнымі творчымі планамі чытачоў знаёміць А. Гендэльман:

**— Бліжэйшае — гэта ўдасканальванне той праграмы, якая ў нас ужо ёсць. Далей, канешне, будзем пашыраць рэпертуар. На чарзе Камерная сімфонія і Канцэрт-паэма для салірующых скрыпкі, віяланчэлі, габоя і фартэпіяна А. Бандарэнкі. Клавірны канцэрт фа мінор Баха, Альтовы канцэрт Тэлемана, Струнная серэнада Чайкоў-**

# СУМНЫ РОЗДУМ ПАСЛЯ СВЯТОЧНАГА КАНЦЭРТА

Размовы пра тэатральны крызіс даўно ўжо сталі агульным месцам у артыкулах мастацтвазнаўцаў. Але ў той вечар хацелася думаць не пра крызіс, а толькі глядзець, слухаць, захапляцца і шкадаваць: на жаль, усё, што мае пачатак, мае і канец...

Я магу толькі паспачуваць, калі 2 мая вы не трапілі ў Дзяржаўны тэатр музкамедыі БССР на канцэрт «зорак» беларускай аперэты, народнай артысткі рэспублікі Наталлі Гайды і заслужанага артыста БССР Рыгора Харыка. Даўно ўжо не даводзілася бачыць такой колькасці падораных кветак, даўно не даводзілася чуць такіх шчодрых воплескаў — артыстам вядомым, прызнаным, любімым.

У той вечар гучалі сцэны і арыі са спектакляў, знаёмых па рэпертуары тэатра музкамедыі, — «Сільвы», «Марыцы», «Прынцэсы цырка», «Д'ябальскага наездніка» І. Кальмана, «Вясёлай удавы» Ф. Легара, «Мільянеркі» Я. Глебава, «Бабскага бунту» Я. Пцічкіна, а таксама твораў, малавядомых мінскаму слухачу, — «Перыколы» Ж. Афенбаха, «Джудзіты» Ф. Легара, «Зялёнага вострава» Дж. Керна і інш.

Напэўна, гэта майстэрства вышэйшай пробы, адзнака шчодрага і зіхатлівага таленту — без дэкарацый, без аркестра (канцэрт ішоў пад акампанемент раяля) ствараць такія розныя характары, якія ў рэшце рэшт набліжаюць да спрадвечнай загадкі чалавечай душы і да спрадвечнай таямніцы кахання, узаемаадносін Яе і Яго...

Але натуральная глядацкая радасць бачыць і чуць Наталлю Гайду і Рыгора Харыка ў іх лепшых ролях азмрочвалася зусім не святочнымі думкамі. Чаму гэта **першы** сольны канцэрт артыстычнага дуэта, добра вядомага ў нашай краіне? Чаму самая зіхатлівая «зорка» беларускай аперэты, яе гонар, вымушана была год таму пайсці з тэатра? Чаму Рыгор Харык прылятае ў Мінск толькі на асобныя спектаклі, бо заключыў кантракт са Свярдлоўскім тэатрам музычнай камедыі? Ва ўласнай трупе ён аказаўся не надта патрэбны. Як жа неашчадна, безгаспадарліва, прабачце за рэзкасць, пахамску ставіцца грамадства ў асобе тэатра да лепшых сваіх прадстаўнікоў, калі **такія** артысты аказваюцца лішнімі... Калі мы ўбачым дуэт Н. Гайды і Р. Харыка на сцэне нашага тэатра музычнай камедыі і ці ўбачым увогуле?

Больш як 25-гадовае самаадданае служэнне Наталлі Гайды мастацтву высока ўзняло прэстыж беларускай аперэты. Чаму яе незвычайная артыстычная індывідуальнасць ніякім чынам не адлюстравана ў ніводным буклеце, альбоме, не кажучы ўжо пра грунтоўную манаграфію? А незапісаныя спектаклі, непастаўленыя фільмы-канцэрты? Усё пытанні, пытанні... Хто на іх адкажа?..

**Т. МУШЫНСКАЯ.**

НАШЫ ГОСЦІ

# Спявае Эва Бен-Цві



У рамках Міжнароднага года Моцарта традыцыйны фестываль «Мінская вясна» шырока прадставіў аматарам музыкі творы вялікага венскага класіка. Аднак у фестывальныя дні адбываліся і канцэрты, у якіх выконваліся творы Баха, Гендэля, Гайдна, Шуберта...

Адбыўся ў Мінску і канцэрт вядомай ізраільскай спявачкі Эвы Бен-Цві.

У спявачкі прыгожае сапрана вялікага дыяпазону, яна валодае тэхнікай вакальнага мастацтва. Інтэрпрэтацыя яе вызначаецца свабодай, нязмушанасцю выканання, уменнем выяўляць аўтарскі сэнс выконваемых твораў. Прыродны лірызм яе арганічна спалучаецца з эмацыянальнай дынамікай.

Творчы шлях Эвы Бен-Цві незвычайны. Скончыўшы Вільнюскую кансерваторыю па класе фартэпіяна і меўшы заняткі па класе вакалу, яна паехала ў Ізраіль, дзе працягвала заняткі спевамі ў салісткі Венскай ды Бухарэсцкай опер Розы Дампф, затым удасканальвала свае веды ў Вышэйшай школе музыкі ў Дэтпольдзе (Германія). Гастралявала ў многіх краінах свету.

У Мінску прагучалі рамансы і песні французскіх кампазітараў (Г. Фарэ, М. Равэля), вакальныя творы ізраільскіх кампазітараў (П. Бен-Хаіма, А. Мааяні), музыка савецкага кампазітара Р. Фрыда. «Кадзіш» і «Вакаліз у форме хабанеры» Равэля, зусім розныя па настроі і змесце, былі выкананы ярка, з тэмбральнымі фарбамі, тэмпавымі кантрастамі ды без вонкавай афектацыі. «Псальма Давіда» Мааяні прагучала ўпершыню ў СССР. Напісаная сучаснай музычнай мовай з імправізацыйнымі прыёмамі, яна была выканана пераканаўча і вобразна, з вялікім эмацыянальным напалам.

Вялікую цікавасць слухачоў выклікалі фрагменты мона-оперы Фрыда «Дзённік Анны Франк». Трагічны лёс яўрэйскай дзяўчыны, якая хавалася ад фашыстаў і загінула ў канцлагеры (што апісана ў яе дзённіку і дайшло да нас), стаўся

# На ўгодкі Цёткі

Прэм'ера спектакля «Стану песняй у народзе...», прысвечанага 115-ай гадавіне з дня нараджэння А. Пашкевіч (Цёткі), адбылася на сцэне Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра дзякуючы адноўленай тэатральнай студыі пры факультэце грамадскіх прафесій Магілёўскага педагагічнага інстытута. У спектаклі кіраўнік студыі, выкладчык кафедры беларускай літаратуры А. Макарэвіч, выкарыстаў творы не адно Цёткі, — Ф. Скарыны, М. Гусоўскага, Ф. Багушэвіча, М. Танка, Д. Бічэль-Загнетавай, В. Іпатавай, Н. Мацяш. І гэта невыпадкова, бо грамадская і літаратурная дзейнасць А. Пашкевіч непарыўна звязаны з дасягненнямі нацыянальнай культуры як ранейшых, так і пазнейшых часоў.

Зразумела, давялося студыйцам і пахваляваццa. Першы выхад на сцэну!.. Да таго ж яны вырашылі падтрымаць ініцыятыву сяброў клуба «Спадчына» і правесці збор ахвяраванняў на будаўніцтва помніка М. Багдановічу ў Яраслаўлі. Гледачы не засталіся абыякавымі і да ідэі будаўніцтва помніка (сабраныя грошы пералічаны студыйцамі на адпаведны

скага і іншыя творы. Надалей мне хацелася б, каб кожны з музыкантаў выступіў у якасці саліста. Плануем супрацоўніцтва з лепшымі выканаўцамі горада, ужо ёсць дамоўленасць з піяністкай Л. Нікіцінай, гітарыстам У. Захаравым, спявачкамі Г. Качалавай, В. Ярошынай. Мы рады ўсім, хто пажадае выступіць з намі. Ёсць у задумах і арганізацыя канцэртаў на прадпрыемствах Гродна і вобласці, у навучальных установах, магчыма таксама і стварэнне музычнага абанемента для моладзі.

Застаецца пажадаць, каб усё задуманае ажыццявілася. Наперадзе столькі цікавага! Невычэрпны на ідэі А. Бандарэнка, напрыклад, ужо марыць пра наладжванне ў Гродне фестывалю камернай музыкі. Ён жа, дарэчы, выказаў слушныя думкі наконт будучыні Гродзенскага камернага!

— Я лічу, што калектыў павінен імкнуцца да ўсё большай і, урэшце, канчатковай прафесіяналізацыі. Як у сэнсе выканальніцкага майстэрства, так і статуса. Чаму наш горад не можа мець штатны аркестр? З часам трэба, безумоўна, узбагачаць рэпертуар, інструментарый, бо існуе столькі прывабнай, знаёмай і незнаёмай, музыкі! Камерны аркестр — гэта не толькі струнная група. Варта было б шукаць здольных музыкантаў, запрашаць у аркестр. Спыняцца нельга.

Напэўна, не для ўсіх гэта радасць—стварэнне Гродзенскага камернага. Камусьці ўсё роўна, а хто і бурчыць: вось, маўляў, прыдумалі «баляванне ў час чумы», хутка есці не будзе чаго, а яны са сваёй музыкай, ды яшчэ грошы ім далі... У такіх выпадках мне асабіста на памяць прыходзяць словы Д. Кабалеўскага: «Цудоўнае абуджае добрае». А яшчэ згадваю твары людзей, якія неаднойчы бачыў у канцэртных залах: натхнёныя, спакойныя і па-сапраўднаму добрыя.

Бачыў такія і на прэзентацыі Гродзенскага камернага.

**Аляксей САЛАДУХІН.**

г. Гродна.

---

тэмай гэтага твора. Напісаны ён па-майстэрску, і вялікае ўздзеянне на слухачоў было ўзмоцнена таленавітай інтэрпрэтацыяй выканаўцы.

Прагучаў таксама цудоўны лірычны вакальны цыкл «Сем песень» вядомага французскага кампазітара Фарэ.

Партыю фартэпіяна выконваў наш зямляк, мінскі піяніст Ілья Райхлін, выхаванец БДК, лаўрэат міжнародных і ўсесаюзных фестываляў джазавай музыкі. У мінімальны рэпетыцыйны тэрмін ён здолеў зрабіцца дастойным творчым партнёрам спявачкі ў гэтай складанай праграме.

Канцэрт Эвы Бен-Цві ў нашай сталіцы прайшоў з вялікім поспехам і пакінуў самы прыемны ўспамін. Першы прыезд да нас прадстаўніцы ізраільскага музычнага мастацтва — адметная падзея. Мы спадзяёмся, што творчыя кантакты паміж дзеячамі мастацтва Беларусі і Ізраіля будуць развівацца.

**Генрых ВАГНЕР,**
**кампазітар.**

Ганарар за публікацыю аўтар просіць перавесці ў Дзіцячы фонд.

Фота Я. МЯЦЕЛІЦЫ.

---

рахунак), і да спектакля, да ігры Т. Яфімавай, Т. Крывашэінай, С. Хейлік, У. Лаўцова, С. Кулягіна. Усхвалявалі сцэны, у якіх удзельнічалі дзесяцігадовая Аксана Макарэвіч і чатырохгадовая Каця Кандраценка. Яны дапамаглі правесці ў спектаклі яшчэ адну важную думку: самасвядомасць, пачуццё нацыянальнай і чалавечай годнасці павінны выхоўвацца ў чалавеку з дзяцінства.

**М. КАРАТКОЎ.**

г. Магілёў.

# Служыў Богу і Уладзе?

## Сімволіка Скарыны

Працуючы над скульптурным вобразам Францішка Скарыны, я заглыбіўся ў гістарычны матэрыял і трохі нечакана для сябе захапіўся расшыфроўкай знакаў-сімвалаў, якія неаднаразова сустракаюцца ў выданнях нашага першадрукара.

Праблема гэтая, як вядома, прыцягвала ўвагу вучоных ужо даўно. У прыватнасці, В. Шматаў змясціў у часопісе «Мастацтва Беларусі» (1989, № 5) артыкул «Набліжэнне да разгадкі», дзе разглядаў семантыку і сімволіку партрэта Скарыны. Ён меў мэтай звесці ў адзінае нярэдка супрацьлеглыя меркаванні і гіпотэзы розных даследчыкаў. Трэба адзначыць, што зрабіў гэта В. Шматаў цікава і пераканаўча. Мяне асабіста прываблівае тлумачэнне Л. Баразны, які лічыў, што «галоўны сэнс герба (Скарыны.—**А. Ш.**)— перамога святла над цемрай. Ва ўяўленні беларусаў сонца ўвасабляе святло, цеплыню, жыццё, месяц — цемру, ноч». Тут, на маю думку, ключ да разгадкі іншых Скарынавых сімвалаў.

Звернемся да знакаў № 1 і № 2 (гл. малюнак), якія дагэтуль нерасшыфраваныя. Бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што Скарына выкарыстоўвае сістэму кабалістычных знакаў. «...всегда иную мудрость и науку знаменують а иначей ся разумеють, нежели молвены бывають, и больш в собе сокрытых тайн замыкають, нежели ся словами пишуть»,— гаворыць Ф. Скарына пра біблейныя прыпавесці ў прадмове да сваёй кнігі «Прытча Саламона». Цікавасць да кабалістыкі і пантэістычнай філасофіі была характэрная для рэнесансных гуманістаў, гэтыя ідэі не маглі абмінуць і Скарыну. «Сімвалічны вобраз параўноўваецца ім з люстэркам» (У. Конан).

Што меў на ўвазе Скарына, калі неаднаразова выкарыстоўваў знак № 1 у аздабленні сваіх кніг? В. Шматаў бачыць у ім медычныя шалі; гэтым нібыта сцвярджаецца справа, якою займаўся Скарына — доктар медыцыны. Не абвяргаючы расшыфроўку названага сімвала як шаляў, я, тым не менш, бачу ў ім іншы сэнс. Нагадаю: «Спачатку было слова, і слова было...» Калі глядзець на палову знака № 1, то мы ўбачым літару Б, якая ўключае ў сябе яшчэ дзве літары — О і Г. У выніку атрымліваем слова БОГ. (Поўны знак атрымаецца ў выніку люстранога адбітка.)

Калі бачыць у гэтым знаку шалі, то Бог—суддзя. Калі знак змешчаны побач з сонцам і месяцам, то Бог—стваральнік Сусвету. І. Штрытэр бачыў тут спалучэнне кірылічных літар Т і Б, што не супярэчыць майму тлумачэнню: Бог па-грэцку— «Тэос».

Такім чынам, мне здаецца, калі Скарына змяшчае знакі № 1 і № 2 абапал свайго партрэта, трэба весці гаворку не пра гербы, як гэта робяць некаторыя даследчыкі, а пра духоўныя сімвалы, дэвізы першадрукара.

Сцвярджаючы, што ён, доктар Францішак Скарына, служыць Богу, лагічна будзе дадаць—і Уладзе. Гэта, на маю думку, дазволіць расшыфраваць сэнс другога знака, які больш падобны на Карону (сімвал улады ў Вялікім княстве Літоўскім і каралеўстве Польскім), чым на схематычны малюнак друкарскага варштата, паводле В. Шматава.

Дарэчы, гэты знак вельмі нагадвае герб Кракаўскага універсітэта, дзе вучыўся Скарына — знак № 3. На знаку першадрукара няма толькі скрыжаваных паходняў.

Знак № 2 у пражскіх выданнях Скарыны сустракаецца толькі аднойчы — на партрэце. Знак № 1, як і відарыс сонца і месяца, упрыгожвае шматлікія дрэварыты кніг славутага палачаніна. В. Шматаў звяртае ўвагу на такі факт: «На тытуле Скарынавай Біблії, які змешчаны ў кнізе «Быццё» (1518), адлюстраваны тры геральдычныя шчыты: адзін зверху і два ўнізе — побач. На ніжніх змешчаны герб (сонца і месяц.—**А. Ш.**) Скарыны (злева) і знак № 1, а верхні шчыт (ён мае такую ж форму, як два ніжнія) не мае відарыса, «белы». Хутчэй за ўсё на гэтым шчыце спачатку быў награвіраваны знак № 2, які зрэзаны гравёрам перад друкаваннем кнігі «Быццё». («Спадчына Скарыны». Зб. матэрыялаў першых Скарынаўскіх чытанняў. Мн., 1986). Паўстае пытанне: калі гэтыя знакі з'яўляюцца гербамі (тым больш, як мяркуюць даследчыкі, канкрэтных асобаў), то навошта Скарына так часта выкарыстоўвае іх у гравюрах на біблейныя тэмы?

Па-першае, хачу адзначыць, што відарыс сонца з месяцам падаецца побач са знакам № 1, і яны як бы дапаўняюць адзін другога, узмацняючы сэнс і змест адпаведных сюжэтаў, падкрэсліваючы светапогляд і галоўны дэвіз «гаспадара» гэтых знакаў. Па-другое, адсутнасць знака № 2 у трэцім шчыце на тытуле кнігі «Быццё» можна вытлумачыць тым, што Скарына ніякім чынам не хацеў ставіць сваю выдавецкую дзейнасць у залежнасць ад палітычных дачыненняў паміж Вільняй і Прагай, дзе выходзіла кніга.

Цяпер прапаную разгледзець гравюру тытульнага аркуша да першай кнігі «Царстваў» (Прага, 1518) «Памазанне Давіда». Звернем увагу на сцэну ў правым куце гравюры. У скарынаўскай Энцыклапедыі на гэты конт робіцца заўвага: «У натоўпе вылучаюцца царскія слугі, воіны, і адзін з іх трымае меч». Мяне здзівіла, што ніхто з даследчыкаў дагэтуль не заўважыў, што той воін з мячом вельмі падобны на самога Скарыну.

Дык каго ж абараняе ён, узняўшы ў левай руцэ меч? Безумоўна, таго барадатага чалавека, што стаіць праваруч ад яго і трымае ў руках карону. А ці не сучаснік гэта першадрукара і ягоны ўладар вялікі князь Літоўскі і кароль Польскі Жыгімонт Казіміравіч? Адгорнем старонку 335 Скарынаўскай Энцыклапедыі, дзе змешчана гравюра з выявай Жыгімонта. На маю думку, падабенства ёсць, прычым значнае: і ў тварах і ў аднолькавых галаўных уборах. Толькі на гравюры «Памазанне Давіда» Жыгімонт (?) трымае карону ў руках, бо яму пагражае нейкая небяспека, а Скарына (параўнайце воіна з партрэтам першадрукара) абараняе манарха. Тым самым як бы яшчэ раз пацвярджаецца патрыятызм Скарыны, яго вернасць гуманістычным ідэалам. Ну а тое, што ён так вольна змяшчае сябе і свайго ўладара ў біблейнай сцэне, сведчыць пра светапогляд людзей эпохі Адраджэння, якая спрыяла развіццю ідэі індывідуалізму і яго духоўных каштоўнасцяў. Не будзем забываць, што і свае ўласныя партрэты Францішак Скарына змясціў не дзе-небудзь, а ў Біблії.

**Алесь ШАТЭРНІК,**
**скульптар.**






Жыгімонт I. Гравюра XVI ст



Тытульны ліст «Біблії» Ф. Скарыны з кнігі «Быццё».

# Гравюры першадрукара

## Даследаванне Скарынавай спадчыны

Летась у Маскоўскім выдавецтве «Книга» пабачыў свет навуковы даслед В. Шматава «Искусство книги Франциска Скорины».

Як гэта не дзіўна, але аб мастацкім аздабленні кніг генія славянскай культуры рускамоўны чытач не ведае амаль нічога. Нягледзячы на тое, што высокі друкарскі і мастацкі ўзровень скарынаўскіх выданняў прыцягваў увагу даследчыкаў яшчэ ў XVIII стагоддзі, яны абмяжоўваліся самымі агульнымі заўвагамі наконт мастацкага аздаблення гэтых кніг.

У XIX стагоддзі кнігі Скарыны згадвалі ў сваіх працах У. Сопікаў, П. Строеў, В. Ундольскі, І. Каратаеў, А. Мілавідаў і інш. Ды толькі ў кнізе П. Уладзімірава «Доктар Франциск Скорина» (СПб, 1888) можна знайсці апісанні гравюр. Лаканічныя, але дакладныя заўвагі аб скарынаўскіх гравюрах зрабіў У. Стасаў у сваёй рабоце «Разбор рукописного сочинения Д. Ровинского «Русские граверы...» (СПб, 1864).

Першы спецыяльны артыкул, спецыяльна прысвечаны гравюрам кніг першадрукара, належыць вядомаму беларускаму даследчыку М. Шчакаціхіну.

Толькі ў 1972 годзе былі ўпершыню выдадзены гравюры кніг Скарыны. Сабраўшы вельмі каштоўны матэрыял, складальнік альбома Л. Баразна, на жаль, не здолеў даць яму адпаведны каментарый.

Асобныя пытанні мастацкага аздаблення кніг першадрукара разглядаліся ў артыкулах Я. Неміроўскага, А. Сідарава, А. Анушкіна, Л. Уладзімірава, Г. Галенчанкі і інш. Важным крокам наперад стала выданне энцыклапедычнага даведніка «Францыск Скарына і яго час» (Мінск, 1988).

Неабходна падкрэсліць, што ўсе названыя аўтары ў асноўным закраналі ў сваіх даследаваннях толькі тыя ці іншыя асобныя бакі скарынаўскай графікі. В. Шматаў па сутнасці ўпершыню набліжаецца да якасна іншага асэнсавання мастацкай спадчыны Скарыны. Ён ставіць перад сабой надзвычай складаную задачу — вывучыць выданні Скарыны ў тым цесным узаемадзеянні, сінтэзе ўсіх кампанентаў мастацкага аздаблення, якое і называецца «мастацтвам кнігі».

Разглядаючы як пражскі, так і віленскі перыяды ў дзейнасці Скарыны, аўтар канцэнтруе ўвагу чытачоў на пытаннях паліграфічнай арганізацыі тэксту, тэхнікі друку, дэкаратыўна-прасторавай пабудовы тэксту, асаблівасцях арнаментальнага дэкору і г. д. Не засталіся за межамі ўвагі даследчыка і асаблівасці паперы, шрыфту скарынаўскіх кніг.

В. Шматаў не толькі ўдала палемізуе з вывадамі сваіх папярэднікаў (як, напрыклад, па пытаннях класіфікацыі ілюстрацый Скарыны), але і закранае зусім не даследаваныя праблемы. Так, упершыню аўтар цікавіцца мастацкімі асаблівасцямі тытульных аркушаў скарынаўскіх выданняў, іх наборным арнаментам.

Аўтар прыходзіць да высновы, што беларускі першадрукар зрабіў першы крок у рашэнні складанай праблемы, кажучы сучаснымі словамі, праблемы дызайна кнігі. Менавіта Скарына зацвердзіў у кірылічнай кнізе новую друкарскую эстэтыку. І менавіта ў гэтым прынцыповае адрозненне выдання Скарыны ад кніг яго папярэднікаў Макарыя і Фіёля.

Уся дзейнасць беларускага першадрукара разглядаецца ў кантэксце развіцця еўрапейскай культуры, у цеснай сувязі з творчасцю іншых яе выдатных дзеячаў. Шматлікія параўнанні, аналогіі дапамагаюць вучонаму звязаць ва ўяўленні чытачоў тое, што, на жаль, часцей за ўсё існуе паасобку — імёны Скарыны і Гусоўскага, Каперніка і Дзюрэра, Тыцыяна і Вераккіо.

Але разам з тым ад кнігі застаецца пачуццё недагаворанасці. Часам аўтар не пазбягае скорагаворкі, асобныя пытанні толькі пастаўлены, а не раскрыты, некаторыя цікавыя разважанні, здаецца, спыняюцца на паўслове. Так, асобнага і больш грунтоўнага аналізу патрабуюць эстэтычныя погляды Скарыны на ілюстраваную кнігу — тэма гэта, здаецца, толькі заяўлена. Хацелася б і больш дакладнасці ў аналізе асаблівасцей арнаментальнага дэкору.

Такім чынам, кніга В. Шматава «Искусство книги Франциска Скорины» ўспрымаецца перш за ўсё як пачатак сур'ёзнай размовы пра кніжнае мастацтва беларускага першадрукара.

**А. ПІКУЛІК.**

# «...З КІМ ДЗЕЛІЦЦА НЕБА САКРЭТАМ...»



**Да 50-годдзя з дня нараджэння Анатоля СЕРБАНТОВІЧА**

Пішу гэтыя радкі і, здаецца, чагосьці баюся. Насцярожвае адчуванне нейкай тайны, якая вось-вось прарэжацца праз загадкавае марыва, дасць сябе зразумець. Можа, баюся менавіта той адгадкі? Тады навошта шукаю яе, імкнуся ёй насустрач, не ведаючы, з якога боку яна ўспыхне, засвеціцца яснасцю? Можа, з таго яршыстага здымка, што глядзіць на мяне з нейкай таемнай задуменнасцю з-пад шкла кніжнай шафкі? Можа, вось з гэтых трох ягоных кніжачак, якія я сёння з раніцы паклаў на свой пісьмовы стол,— «Азбука», «Міннае поле», «Пярсцёнак»? Першыя дзве з іх Толя меў шчасце трымаць у руках, апошнюю ж, трэцюю, не дачакаўся: пайшоў ад нас, жывых, як кажуць і пішуць, у росквіце творчых сіл.

Здымак і кнігі... Канешне ж, тайна ў іх. Гэта з іх абдае мяне, пранізвае наскрозь тая нябачная прамянёвая мяцеліца, якая, відаць, і спараджае маю загадкавую насцярожанасць. А ў ёй агніста-трапяткою спружынкаю дрыготка пульсуюць радкі з яго верша:

**І колькі б ні грашыў,**
**А свячуся сонечным**
**каменьчыкам**
**Я на самым дне тваёй душы.**

Не было ў цябе, дружа, грахоў перада мною. І, думаецца, ніколі б не было. Бо сяброўства наша завязалася не на паверхні — глыбінна, трывала, назаўсёды. Я тады працаваў у райгазеце на Шклоўшчыне, на Толевай радзіме. Журналісцкія сцяжынкі неаднойчы заводзілі ў яго родную вёску Ордаць. На высокім беразе тады паўнаводнай Басі прыгожа рассялілася яна. Вуліцы, як і ў кожнай прырэчнай вёсцы, узгорчатыя, пераважна пясчаныя. На адной з іх аднойчы заглох мой шматпакутны матацыкл: «сеў» акумулятар. Каб запусціць рухавік у такой сітуацыі, трэба было разганяць машыну і ўключаць «скорасць» на хаду. Пра тое ж, як я той раз намучыўся ў ордацкіх пясках, напісаў неяк Толю ў Мінск. Ліст у адказ прыйшоў надзіва хутка. А ў ім, сярод іншага, такія радкі:

**Напішу я вершаў цыкл**
**На лужку ці у ляску.**
**Покуль будзеш матацыкл**
**Валачыць ты па пяску.**

Лёгкасцю радка, непадробнай настраёвасцю прасякнута ўся творчасць Анатоля Сербантовіча. Якую б старонку яго зборнікаў ні адліснуў, нідзе, ні ў якім вершы не знойдзеш радка прахаднога, заморанага натужлівасцю пісання. Па ўсіх яго вершах адчуваецца, што такой натужлівасці ў паэта і не было. Талентам ён быў надзелены рэдкім, незвычайным. Дапытлівы розум, дакладнасць ацэнкі ўбачанага, той ці іншай падзеі, трапнасць выказвання, чуласць, аддансць ва ўзаемаадносінах падкуплялі знаёмых, раскоўвалі на дружбу. У ім была пяшчота нейкая. Ні ў яго радках, ні ў паводзінах не было і няма зухаватасці, той хвацкасці, якая аддаляе і чытача, і сяброў.

**Слаўлю чыстае. Слаўлю ветлае.**
**Дабрату без хлусні і злосці, —**

гэта словы з яго верша. «Першакурсніцы», а ў іх дакладная характарыстыка душы творцы, яго крэда. Пра будзённае, як пра вечнае, пісаў Толя, бо бачыў, што з будзённага складваецца вечнае.

**Я труба, ў якую трубіць колас,**
**У якую трубіць родны край.**

**Дзіўлюся я: навошта храмы,**
**Калі уся зямля, як храм!..**

**Я рады за зямлю сваю святую,**
**Якой не трэба болей паказух.**

Апошнія радкі гучаць нібы сёння напісаныя, у перабудовачны час — з верай («я рады...») і незгасальнай любоўю, бо «на свеце заўсёды вечная да Радзімы сваёй любоў». А побач — філасофскі роздум: «чаму у нас паэтаў — як бяроз»?

**А лес трывожнай бронзай**
**празвінеў:**
**«Таму так многа ў нас было**
**паэтаў.**
**Каб за усіх, хто гаварыць не**
**ўмеў,**
**Яны пра край наш расказалі**
**свету».**

Паэт Анатоль Сербантовіч менавіта ў гэтым усведамляў сваю адказнасць як творцы. І таму з-пад яго пяра з'яўляецца выбуховая паэма «Міннае поле», вянок санетаў «Васілёк», цыклы вершаў з паездак па Сібіры і Далёкім Усходзе, а найбольш пра сваю незабыўную Беларусь, малую радзіму.

**Я над Шклоўшчынай неба**
**Сінюткае бачу,**
**Што пад ветрам гайдаецца,**
**Як васілёк.**

Шматжанравасць (замалёўка — балада — паэма — вянок санетаў), шматмажорнасць, аздобленая мастакоўскай няўрымслівасцю, робяць Толеву паэзію патрэбнай людзям. Чытаючы многія старонкі яго кніжак, нібы адпачываеш. Праўда, не заўсёды. Часам, бывае, так узрушаць радкі, што доўга знаходзішся ў іх палоне. Як пасля вось гэтага экспрэсіўнага верша «Гул баёў... Разбітыя дарогі...» — пра бязногага салдата.

**Ты, салдат, спявай такую песню,**
**Каб забыў і сам,**
**што ты без ног.**
**Каб ён ведаў, мой круты**
**равеснік,**
**Хто што мог**
**і хто чаго не змог.**

...Канчаўся сакавік 1970 года. Аляксей Пысін адзначаў сваё пяцідзесяцігоддзе. Акрамя афіцыйнай дэлегацыі з Саюза пісьменнікаў, што выязджала ў Магілёў на юбілей на чале з Міколам Ткачовым, на свята ехалі і блізкія сябры паэта, што жылі ў Мінску і былі асабіста запрошаны Аляксеем Васільевічам. Запрошаны быў і Толя. Але ён чамусьці не прыехаў. Я добра памятаю, як скрушна ў сябе і ў нас пытаўся юбіляр: «Чаго няма Толі?.. Нешта здарылася...» І сапраўды, здарылася нечаканае, непапраўнае. У юбілейную для Аляксея Васільевіча ноч, з дваццатага на дваццаць першае сакавіка, не стала Толі, памёр на дваццаць дзевятым годзе жыцця. Пра гэта са Сцяпанам Гаўрусёвым мы з жахам даведаліся толькі вярнуўшыся ў Мінск. «Калі б прыехаў, быў бы жывы»,— часта пакутаваў Пысін, успамінаючы Толю. Ён і напісаў развітальную прадмову — «Песня веснавога жаўранка» — да апошняга паэтычнага Толевага зборніка «Пярсцёнак», які самога аўтара ўжо ў жывых не заспеў.

Усе гэтыя гады неадступна праследуе, і, відаць, не аднаго мяне, загадкавая думка: Толя, калі і не ведаў, дык прадчуваў, што яго хутка не стане. Таму і пісаў пра гэта. Нездарма адзін за адным з'яўляюцца вершы «Няма мяне», «Дарагая, любая, харошая...», «Заплачаш. Заломіш рукі...», «Так стараўся, што думалі трэсне...» і інш. Шмат працаваў Толя, натхнёна спяваў, што акордныя радкі аднаго з пералічаных вершаў, здаецца, адрасуюцца яму самому:

**А над песняю той недапетай**
**Прагудзела труба жураўля:**
**«Тых,**
**з кім дзеліцца неба**
**сакрэтам,**
**Маладым забірае зямля».**

Аляксей Пысін... Сцяпан Гаўрусёў... Анатоль Сербантовіч... Нікога аднаго з названай троіцы я ў паасобку ўявіць не магу. Згадваючы, напрыклад, Толю, у мяне ўваччу імгненна яго постаць і аблічча аказваецца ў акружэнні астатніх двух. Яднанне сяброўства талентам — святое яднанне. І — вечнае.

**«Жаўранак... з-пад мяжы!**
**Узляцеў рана-рана.**
**Звонка праспяваў над полем**
**мінным, над полем цалінным,**
**над сваёй бацькаўшчынай.**
**І згарэў у песні».**

Гэта заключныя словы са згаданай пысінскай прадмовы. Словы балючага развітання з другам.

**Віктар РАКАЎ.**

## Памяці Сербантовіча

**Паміж намі не стала**
**Незабыўнага Толі,**
**Ён пайшоў на світанні**
**І не вернецца болей.**

**А жальба засталася**
**Песняй жаўранка ў полі.**
**Над рачулкаю Басяй**
**Ціха плачуць таполі.**

**Пятро СУШКО.**

**У Доме літаратара адбыўся вечар, прысвечаны А. Сербантовічу. У ім прынялі ўдзел і выступілі В. ЗУЕНАК, С. ЗАКОННІКАЎ, Я. ХВАЛЕЙ, К. КАМЕЙША.**

Фота Ул. КРУКА.

# У краіне светлай, ля сіняй бухты

**(Пачатак на стар. 5).**

Быццам сам М. Багдановіч выйшаў на сцэну Ялцінскага драматычнага тэатра імя А. П. Чэхава, калі да прысутных звярнулася народная артыстка БССР З. Бандарэнка: «Вершы, вершы дарагія! Спарадзіў я вас маленькіх у час, калі мне падымала грудзі хваля пачуцця. І няхай яно з вас знікла, хай збляднелі вы, засохлі, усё ж вы будзіце мне згадкі, і за гэта дзякуй вам. Не абміне і чытач вас... Разварушыце ж, мае вершы, гэты пласт: хай згадка згадку кліча, цягне, хай чытач мой зноў былое пражыве!»

Багдановіч прысутнічаў і ў зале. Пра гэта нагадваў вялікі партрэт на сцэне, пра гэта гаварылі ўсхваляваныя словы прамоўцаў — намесніка Старшыні Савета Міністраў Крымскай АССР Т. Красікавай, А. Лойкі, Г. Пашкова.

Потым жа гучала беларуская песня, віхурыўся агністы беларускі танец. І, вядома ж, Максімавы песні— «Зорка Венера» і «Вераніка». Апошняя сталася своеасаблівай прэм'ерай. Народны артыст СССР І. Лучанок сеў за раяль, і паліліся чароўныя гукі. Звычайна гэтая песня гучыць у выкананні «Песняроў», а цяпер яе спяваў кіраўнік «Сяброў» А. Ярмоленка, спяваў па-свойму адметна і непаўторна.

Вялікі беларускі канцэрт прайшоў у канцэртнай зале «Юбілейная» — на завяршэнне Дзён. Хоць білеты каштавалі і дарагавата, зала была паўнюткай. Выступалі народны артыст БССР В. Вуячыч, «Сябры», ансамбль «Свята»... Літаральна ўсе нумары праходзілі пад воклічы «Брава! Біс!»

Напярэдадні закрыцця Дзён адбылося яшчэ некалькі сустрэч, якія нельга не згадаць. У кінатэатры «Сатурн» аматараў кіно сабрала прэм'ера мастацкага фільма «Франка — жонка Хама» па раману Э. Ажэшкі «Хам», з поспехам выступіла на некалькіх пляцоўках «Свята», у тым ліку ў санаторыі «Беларусь», што ў Місхоры. Нядаўна ў ім адпачывалі чыноўнікі рознага рангу, а цяпер «Беларусь» прымае «чарнобыльскіх» дзяцей. Перад канцэртам яны з бацькамі сабраліся ля бюста М. Багдановічу. В. Іпатава, В. Зуёнак, Г. Пашкоў, А. Лойка чыталі свае вершы, загадкі, пацешкі, нагадвалі, кім быў Максім-Кніжнік для Беларусі. Дзеці ж дэкламавалі вершы М. Багдановіча.

...У дзень ад'езду з Ялты з ранку церушыў зусім не летні дождж, цёмнай навалокай пакрыўся небакрай. Праўда, паступова распагоджвалася, вецер разагнаў хмары, выглянула сонца. Пасвятлела сіняя бухта, стала, як заўсёды, вабнай і жаданай.

Крым не адпускаў ад сябе.

Не адпускаў ад сябе Максім Багдановіч.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ, Уладзімір КРУК (фота), спецыяльныя карэспандэнты «ЛіМа».**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# «ЗАХАЦЕЛАСЯ ЛЮДЗЬМІ ЗВАЦЦА? ЗАВІЦЕСЯ!..»

**Маю душу закрануў апошні абзац артыкула Юрася Залоскі «Вяртанне ў Вільню». Аўтар іранічна піша пра «тралейбусную псіхалогію» літоўцаў. Быццам вось якія яны «некультурныя» — так хваравіта абараняюць сваю мову, што рускамоўным стала немагчыма жыць у Літве. «Так нельга», — адчуваецца думка аўтара. А як? Трэба сарамліва папраўляць, ушчуваць, быць памяркоўным? Быццам усё правільна. Але не з усімі і не заўсёды. Літоўская «тралейбусная псіхалогія» — паказчык таго, што грамадства хворае і змагаецца са сваёй хваробай. Я рада за прыбалтаў і засмучаюся беларускай «тралейбуснай псіхалогіяй». Няма такой? Вы вельмі памыляецеся. Ёсць! І тралейбусная, і крамная, і цырульная... І не заўважаць яе нельга, як нельга адмяніць транспарт, крамы, цырульні. Толькі змагаюцца ў нас не за беларускую мову, а за рускую. І я мару аб тым часе, аб такой тралейбуснай псіхалогіі, калі мне будуць адказваць па-беларуску, не прыніжана, а хай і не зусім упэўнена, але з гонарам. І гэты час прыйдзе! Так — гэта груба, так — гэта балюча. Але інакш проста не бывае ў жыцці. Праз гэта трэба прайсці.**

**Я люблю паэзію Янкі Купалы. Але верш «А хто там ідзе?» мне не падабаўся ні ў школе, ні зараз. Хоць асобна ўзяты сказ «Людзьмі звацца!» вельмі добра гучыць як эпіграф да маёй любімай газеты. Ёсць у гэтым вершы ўсё той жа плач, усё тая няўпэўненасць, скарга невядома каму і на каго. Захацелася людзьмі звацца? Завіцеся! Калі ты сапраўдны беларус, то фарміруй у сябе на радзіме «тралейбусную псіхалогію» ў свой бок. Толькі так! Чалавека гордага, упэўненага ніхто і не будзе высмейваць: ягоныя словы і паводзіны будуць пераймаць. Такая чалавечая псіхалогія.**

**Гэта вельмі важна — абараняць мову адданасцю. Я — за «тралейбусную псіхалогію». У Літве — літоўскую, у Казахстане — казахскую, Ізраілі — яўрэйскую, Беларусі — беларускую. Хай гэта асобным людзям не вельмі прыемна. Усім не дагодзіш! Гэта — крайні сродак. Але ён — як укол хвораму, якому таблеткі і парады не дапамагаюць.**

**М. ШЧУКІНА.**

г. Мінск.



*Мартыралог Беларусі: імёны і факты*

# «Бацьку арыштавалі 13 лютага 1937 года...»

**Працяглы час ужо я займаюся пошукам ахвяр сталінскіх рэпрэсій — людзей, расстраляных, закатаваных органамі НКУС, а таксама тых, каму выпаў нялёгкі лёс быць роднымі, сваякамі «ворагаў народа».**

**Пошук гэты весці было вельмі нялёгка, бо розныя інстанцыі, а найперш партыйныя і праваахоўныя, перакрылі дарогу да архіўных дакументаў, звязаных з вайной Сталіна і яго памагатых супраць уласнага народа.**

**Але ёсць дакументы , якія не схаваеш ні ў якім архіве, да якіх не паставіш вартавых. Дакументы гэтыя — жывыя сведчанні людзей, памяць якіх захавала падзеі тых жудасных гадоў.**

**Ёсць на Лепельшчыне вёскі Барсукі, Валова гара і Забор'е. У першай з іх у канцы трыццатых гадоў было рэпрэсіравана 40 чалавек — амаль кожны чацвёрты, у астатніх крыху менш.**

**Вось яны, сведчанні мясцовых жыхароў:**

**Петрунеля Мікалаеўна Буевіч (Казлоўская):**

— Бацька мой Казлоўскі Мікола (маці звалі Альжбетай) жыў недалёка ад вёскі Валова гара на хутары. Мясціну тую і зараз завуць Казліхай. Гэта недалёка ад возера Плаўна. Было ў сям'і чатыры сыны і чатыры дачкі. Бацька па тым часе быў даволі адукаваным, добра ведаў сялянскую справу, і хоць надзел быў невялікі (усяго гектараў дзесяць ворыва ды 7 гектараў сенажацей), жылі мы бязбедна. З усёй работай спраўляліся сваёй сям'ёй, батракоў не трымалі. Хутар стаяў сярод балот, нібы той востраў, два сабакі сцераглі статак ад ваўкоў. У статку было некалькі кароў, чатыры кані, сорак авечак, дваццаць свіней. 18 калод пчол ды сад на 200 дрэў. Бацька пракапаў з возера канаву і ператварыў балота ў сажалку, дзе было поўна рыбы.

У першую сусветную ды грамадзянскую войны ў барацьбе «за зямлю, волю ды лепшую долю» зламылі свае галовы два мае браты Стась і Янак. Антось вярнуўся з куляй у жываце і хутка памёр. Толькі малодшы Казімір заставаўся дома. К канцу дваццатых гадоў дочкі Марыля, я і Вікця выйшлі замуж, прывялі зяцёў, працавалі многа, зямля радзіла наўздзіў усім. У час жніва запрашалі вясковых жанчын жаць, у сенакос—мужчын касіць. Плаціў бацька за дзень работы больш, чым у калгасе атрымлівалі за год. У той час калгаснікі галадавалі, прыходзілі пазычаць збожжа. Нікому бацька не адмаўляў, людзі і па сённяшні дзень па-добраму ўспамінаюць нашу сям'ю.

Хутар быў «бяльмом на воку» ў мясцовай улады ды актывістаў. Неяк вясной прыехаў міліцыянт з цэлай хэўрай актывістаў-гультаёў, выгналі нас з хаты, павезлі ў Лепель. Маёмасць нашу расцягалі, жывёлу забралі ў калгас, пчол знішчылі, сад высеклі, на месцы сажалкі зноў стала балота, зямля без гаспадарскіх рук перастала радзіць. Бацька неўзабаве памёр. Выкінутыя з цягніка на сібірскі мароз, загінулі астатнія, і толькі Казік з жонкай Анеляй збеглі назад і хаваліся ў Анелінай маці ў вёсцы Валова гара. Але хтосьці данёс, і на іх пачалося «паляванне». Дапытвалі Анеліну маці, білі па галаве, пасля чаго ў старой яна балела да самай смерці. Потым Казік жыў у сястры пад прозвішчам Баранаў. Доўга нельга было хавацца і, ведаючы, што рана ці позна іх зловяць, паехалі самі далей ад родных месц. Пасяліліся ў Іркуцкай вобласці, дзе прыжыліся, выгадавалі чатырох дзяцей: Ядзю, Стася, Франю, Лілю.

**Зінаіда Лаўрэнаўна Лук'яновіч (Урбан):**

— Памятаю, бацька быў вельмі добры, ласкавы чалавек. Прыйдзе з працы зmoраны, галодны, але кожнага на руках патрымае. Нас чацвёра было — Паўла, я, Кадзя і Анютка. Бацька самы першы ў калгас уступіў, стараўся працаваць, не лайдачыў, як «актывісты».

Летам 1937 года ўварваліся ў хату энкэвэдзісты і загадалі бацьку збірацца. Маці пабудзіла нас, бацька пацалаваў кожнага ў галаву, сказаўшы: «Спіце, я скора вярнуся, не плачце і мамку слухайцеся».

Як успамінаю, дык заўсёды галоднымі былі, бо з калгаса нічога не атрымлівалі, за адны «палачкі» працавалі. Агарод дрэнны быў, амаль нічога не даваў. Брат пасвіў калгасны статак, маці цэлы дзень у полі, я — з малымі.

У час вайны немцы спалілі нашу хату, жылі па чужых кутах. Паўла добраахвотна ў партызаны пайшоў, а калі прыйшла Чырвоная Армія, дык адразу трапіў на фронт, адкуль неўзабаве прыйшла пахаванка.

Пра бацьку нічога не ведаю, да гэтага часу нават рэабілітацыю не прыслалі. Дужа крыўдна і горка. Каму былі патрэбныя нашы сірочыя слёзы і смерць бацькі? Тады на кожным кроку крычалі: «ворагі народа», а сёння як вады ў рот набралі. Няўжо так усё і згіне ў мінулым?

**Ядвіга Францаўна Цяліца (Казлоўская):**

— Бацьку арыштавалі 13 лютага 1937 года. У сям'і было пяцёра дзяцей, і маці была цяжарная шостым. Сам бацька працаваў у калгасе, быў прыгожым, вясёлым чалавекам, любіў песні, жарты. Было ў яго тры браты—Пётра, Фэлька, Ігнат. Адзін з іх быў нават старшынёй сельскага Савета. Барсукоўскія «актывісты» напісалі на бацьку данос. Ці то ён няўдала пажартаваў, ці некаму з іх упоперак дарогі стаў, бо ні перад кім шапкі не ламаў. Прымусілі падпісаць данос нават далёкую сваячку. Даносы напісалі і на бацькавых братоў. Ні для кога не было сакрэтам, што вербаваў даносчыкаў старшыня калгаса Кубар. Але большасць людзей адмаўляліся гэта рабіць. І, вядома, станавіліся кандыдатамі ў вязні.

Калі арыштоўвалі бацьку, дык нават энкэвэдзіст паспачуваў: «Што ж ты нарабіў, Казлоўскі, як жа цяпер будзе жыць сям'я?» Пасля арышту бацькі над намі здзекаваліся, называлі ворагамі народа, але даводзілася маўчаць, моўчкі плакалі, каб ніхто не чуў, ды нашых слёз не бачыў. Аднойчы ў мяне здохла калгаснае цялё, дык рахункавод адразу сказаў: «Даглядалі ж з сям'і ворага народа». Крыўдзілі на кожным кроку. Нават каня не давалі, каб дроў прывезці, на сабе цягалі, траву нават у балоце не дазвалялі касіць.

У час вайны мы чым маглі дапамагалі партызанам, пяклі хлеб, шылі з парашутаў бялізну. Старэйшы брат Вячаслаў добраахвотна пайшоў у партызаны, а калі прыйшлі нашы, пайшоў на фронт, дзе быў да канца вайны.

Бацьку рэабілітавалі ў 1959 годзе. Кажуць, што яго і братоў расстралялі ў Оршы. Цяжка ўспамінаць усё гэта, але ж хачу, каб прылюдна ўлады сказалі, што бацька не быў вінаваты.

**Яніна Юльянаўна Гардзіёнак:**

—Працаваў наш бацька ў калгасе пастухом, потым конюхам. У сям'і было трое дзяцей. Бацька дрэнна бачыў, дык, каб не згубіць кароў, мяне, малую, браў з сабой. Забіралі яго акурат у навагоднюю ноч старшыня калгаса Кубар і двое энкэвэдзістаў, Кубар схапіў адразу бацьку за грудкі і паставіў у кут, папрасіў у энкэвэдзіста наручнікі. Але наручнікаў не было, і старшыня звязаў бацькавы рукі вяроўкай. Зрабілі вобыск, забралі фотаздымкі, нейкую хустку. Маці накінула на бацькавы плечы армячок, надзела яму на ногі лапці, так яго і павялі. Кінуліся мы ўсе за бацькам у дзверы, ды Кубар падпёр іх знадворку.

Даносы ў асноўным падпісвалі чалавек пяць з ліку актыву калгаса. Чаму напісалі на яго? Бацька зімой даглядаў коней, дасць ім сена, аўса, а—жывёла галодная. Вось аднойчы дапільнаваў ён ды й злавіў злодзея — «актывіста», які чысціў кармушкі. Далажыў старшыні. «Актывісту»-злодзею нічога, а бацька паплаціўся.

Маці насіла бацьку перадачы ў Лепель, у турму, але ніводнага разу яго не пабачыла. Бачыла толькі аднойчы арыштаваную Антаніну Званько, якая рукой з-за кратаў махала і крычала, каб за яе сынам Мішам глядзелі. Помню аднойчы зімой, у завіруху, з Эміліяй Куноўскай панеслі перадачу сваім у Лепель, дзесяць кіламетраў прайшлі, заблудзіліся, а калі агледзеліся, дык, аказваецца, прыйшлі дамоў.

Расказваў нам у той час актывіст, які падпісваў данос на бацьку: «Прывялі мяне да следчага на вочную стаўку, а там ваш Юлік сядзіць пабіты, у слязах. Убачыў мяне і кажа: «Браток, ці ж я за граніцу хадзіў? Я ж амаль сляпы, дарогі не бачу, гэта ж хлусня». А мяне ўжо папярэдзілі, што трэба казаць, дык я глядзеў у столь і паўтараў адно,што хадзіў ён, што меў з Польшчай сувязь».

Жыццё пасля таго, як забралі бацьку, стала вельмі цяжкое, увесь час былі галодныя і халодныя. Кожны дзень працавалі ў калгасе ад цямна да цямна нават мы, дзеці. Калі маці аднойчы папрасіла брыгадзіра адпусціць яе хоць на паўдня, каб сабраць дзецям ягад, грыбоў, той адразу закрычаў: «Пойдзеш, дык будзеш там, дзе муж!» А каму было паскардзіцца? Будавалі сабе хатку, дык нават каня не далі. Маці ў аглоблі ўпраглася, а мы падпіхалі. Гэтак гадоў пятнаццаць з нас здзекаваліся, як выжылі—не ведаю. Дзе бацьку забілі, таксама не ведаю. Можа, у Оршы, а можа, на Мядзведжай гары.

**Марыя Вікенцьеўна Бяляк:**

— Жылі на хутары Барок небагата, бацька адным з першых уступіў у калгас. Школа была на цэнтральнай сядзібе, і бацька вазіў туды нас праз раку або на кані, альбо на сабе пераносіў. Як забіралі яго, дык, помню, была ноч, было дужа страшна, бо нічога не разумелі. Помню, што бацька ўзяў на рукі двухгадовага Яначку, пацалаваў ды перадаў маці. Праз некаторы час забралі на допыт у Лепель маці. Вось тут ужо мы сапраўды напалохаліся, беглі за ёй па вуліцы, крыкам плакалі. Маці потым распавядала, што прывезлі яе да следчага, а потым прывялі бацьку. Вочы бацькі былі з кровападцёкамі, і следчы растлумачыў, што бацька не ўмее запальваць запалкі, і серка трапіла яму ў вочы...

У хуткім часе арыштавалі дзядзьку—Куноўскага Вячаслава Лявонавіча, які жыў на хутары Кірплеўшчына. Жыў у дрэннай хатцы, бедна жыў. Меў трох дзяцей. Калі яго забралі, жонка ад гора страціла розум, і на плечы нашай маці ляглі турботы па доглядзе траіх дзяцей ды хворай жанчыны.

**Марыя Іосіфаўна Сазонава:**

— Нашага бацьку забіралі два разы. Першы раз яшчэ ў 1933 годзе, бо хтосьці з яго сваякоў жыў у Заходняй Беларусі. Без суда саслалі яго на будаўніцтва Беламора-Балтыйскага канала, дзе працаваў, стоячы па калена ў вадзе. Там ён вельмі цяжка захварэў, і яго адправілі дамоў. Слабы быў такі, што ў Лепелі з поезда звялі яго людзі, а далей ісці не мог. Добра, што знаёмыя праходзілі міма, дык яго завялі да сябе, а назаўтра прывезлі дадому. Памятаю, што мы вячэралі, маці зварыла дзевяць бульбін, на кожнага па адной, а тут бацьку прывялі, худога, хворага. Я сказала, што пад'еўшы і не хачу есці, дужа шкада было бацьку. Нас сямёра дзяцей было. Лячылі бацьку ад рэўматызму травамі, цяплом і з цягам часу вылечылі. Потым бацька конюхам працаваў, рамантаваў збрую. Зноў забралі бацьку энкэвэдзісты ў 1937 годзе, не паглядзелі на беднасць, на дзяцей. Трымалі яго ў Аршанскай турме. У хуткім часе перадалі, што бацька там памёр.

Забралі ў 1937 годзе і яго старэйшую сястру Антосю Занько, якая працавала ў калгасе, была членам сельскага Савета. Абвінавачвалі яе ў ліберальных адносінах да кулакоў у час канфіскацыі маёмасці, ды антысавецкай агітацыі. На самай справе трэба было забраць хату, у якой яна жыла. Вось «актывісты» і настрачылі данос. Яе сыну Мішу ў той час было каля трох гадоў. Калі забіралі, бег за маці, плакаў. З цягам часу мамай пачаў зваць бабулю Міхаліну. Пасля вайны выхоўваўся ў дзіцячым доме. Да канца свайго жыцця памятаў, як бег за маці... Дзе загінула Антося невядома.

Цяжка нам жылося без бацькі, крыўдзілі нас калгасныя начальнікі. Калі сястра Уладзя разбілася, упаўшы з арэляў, дык каня нават не хацелі даць, каб адвезці дзяўчыну ў лякарню. Дровы дык заўсёды на сабе вазілі. Але ніхто ніколі не чуў нашых скаргаў, не бачыў нашых слёз.

**Усцінія Гаўрылаўна Прусная (Урбан):**

— Калі заганялі нас у калгас, дык «раскулачылі» спачатку, а ў 1937 годзе бацьку ўжо і арыштавалі. Адправілі працаваць на Асінторф, дзе людзі гінулі не менш, чым у Сібіры. Сустрэўся яму там нейкі знаёмы прараб, які дапамог цераз паўгода вырвацца на волю, але ж здароўе было падарвана, ды і жыў пад страхам. Хутка памёр.

**А вось яшчэ колькі апавядаў мясцовых жыхароў.**

— На хутары Папоў Кашэль арыштавалі Мікалая Лазаравіча Прываду, хоць данос быў напісаны на Прываду Мікалая Міронавіча. Але ж усё роўна не адпусцілі, патрэбны былі «галовы», а не віна чалавека. Так і загінуў чалавек.

— З хутара Буевічана выслалі сям'ю Буевіча Антона. Сям'я складалася з 11 чалавек. Дык вось, з усёй сям'і засталася адна дзяўчынка — Юзя.

— З хутара Мар'янава быў высланы Браніслаў Закрэўскі з усёй сям'ёй, якая складалася з васьмі чалавек. Кажуць, што ўсе ў высылцы загінулі, але ёсць сведчанне, што адна дзяўчынка засталася жывая.

Каля пяцідзесяці такіх споведзяў запісаны ў маім блакноце. Цяжка даюцца людзям успаміны, але толькі тры чалавекі адмовіліся ад размовы — адзін камуніст-ветэран ды дзве напалоханыя на ўсё жыццё жанчыны.

**А. ШУНЕВІЧ, аграном.**

Лепельскі раён.

# ТВОРЦА РУХУ БЕЛАРУСКАГА

## Да 110-годдзя з дня нараджэння Івана ЛУЦКЕВІЧА

**Валянцін ГАЛУБОВІЧ,**
кандыдат гістарычных навук



ІВАН ІВАНАВІЧ Луцкевіч нарадзіўся 28 мая 1881 года ў павятовым месце Ковенскай губерні Шаўлях, дзе яго бацька меў службу на чыгунцы. Шасцігадовым хлопчыкам яго перавезлі ў Лібаву з прычыны пераводу туды бацькі. Тут ад 1890 года юнак пачаў вучыцца ў Лібаўскай Мікалаеўскай гімназіі.

У 1895 годзе сям'я Луцкевічаў перабралася ў Мінск. Каб не зрываць ходу навукі, Івана пакінулі вучыцца ў Лібаве. Але бацька памёр у Мінску праз паўгода пасля пераезду, і ў 1897 годзе маці забрала сына да сябе. Ён паступіў у 5-ы клас мінскай гімназіі. Менавіта тут юнак сустрэўся з беларускім археолагам і краязнаўцам Генрыкам Татурам, пад кіраўніцтвам якога ўвесь свой вольны час аддае працы над гісторыяй і археалогіяй.

У 1902 годзе Іван Луцкевіч скончыў мінскую гімназію і паехаў ва універсітэт у Пецярбург, дзе запісаўся на юрыдычны факультэт. Адначасна ён паступае ў археалагічны інстытут, лекцыі якога слухаў вечарамі. У часе, вольным ад заняткаў, І. Луцкевіч спакваля пачынае весці пэўную беларускую працу сярод студэнтаў, гуртуючы каля сябе пераважна беларускую інтэлігенцыю, і ўжо з тых часоў, як адзначаў яго брат Антон Луцкевіч, становіцца «павадыром усяго беларускага руху».

Восенню таго ж года Іван арганізуе «Беларускі Гурток Народнае Асветы» і рэдагуе першую адозву гуртка да грамадзянства краю, прызываючы да выканання натуральнага абавязку перад беларускім народам: да нясення ў вёску асветы ў беларускай мове. Арганізацыя гэта займалася распаўсюджваннем друкаваных за мяжой беларускіх кніг, а таксама рабіла ўжо спробу іх выдання ў Расіі. Іменна ў «Беларускім Гуртку Народнае Асветы» пачалося супрацоўніцтва братоў Луцкевічаў з Вацлавам Іваноўскім.

Увосень 1902 года Іван Луцкевіч арганізуе першую Беларускую Рэвалюцыйную Партыю. Праграмы гэта партыя не мела. Яна займалася распаўсюджваннем беларускіх літаратурных выданняў. І ў тым жа 1902 годзе партыя перайменавалася ў Беларускую Рэвалюцыйную Грамаду (БРГ). А ў канцы 1905 г. у Мінску Грамада правяла першы свой з'езд, на якім пастанавіла дабівацца краёвай аўтаноміі для Беларусі з соймам у Вільні і перадачы сялянам без выкупу панскай, казённай і іншай зямлі. У выніку дыскусіі, якая адбылася пасля агляду палітычнага становішча, з'ездам прынята канчатковае рашэнне аб тым, што партыя ад гэтага часу будзе называцца Беларускай Сацыялістычнай Грамадой. Затым выбраны ЦК БСГ: Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Іваноўскі — члены, Аляксандр Бурбіс і Аляксандр Уласаў — кандыдаты ў члены ЦК.

БСГ мела сваю праграму, адбітую ва ўласнай друкарні, зарганізаванай у Мінску ў 1905 г., у якой зазначалася, што Беларуская Сацыялістычная Грамада ёсць арганізацыя беларускага працавітага народа, якая хоча раскінуць існуючы капіталістычны парадак і аддаць у рукі ўсяго народа зямлю, сродкі працы і ўсе спосабы камунікацыі для супольнага ўладання. Яна ставіла сваёй мэтай найбольшую свабоду для ўсіх народаў, беручы за найбольш пажаданае незалежную дэмакратычную рэспубліку.

Маючы вялікае кола знаёмых у Пецярбурзе, Мінску і на правінцыі,— знаёмых як між інтэлігенцыі, так і між работніцкага і сялянскага асяроддзя, — Іван Луцкевіч развівае думку аб беларускай палітычнай арганізацыі, якая з самага пачатку свайго існавання павінна выступіць цэнтрам усяго беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху Дзеля большага поспеху дзейнасці на беларускай ніве Іван Луцкевіч стараецца ўваходзіць у цесныя зносіны з іншымі рэвалюцыйнымі згуртаваннямі. З ім і яго словам сур'ёзна рахуюцца такія партыі, як сацыялісты-рэвалюцыянеры, сацыял-дэмакраты і «Бунд».

Захоплены ідэяй палітычнага вызвалення беларускага народа, Іван Луцкевіч знаходзіцца ў пошуках шляхоў каардынацыі ўсіх сіл, якія ішлі на змаганне з царызмам. У Пецярбурзе ён мае кантакт з партыяй сацыялістаў-рэвалюцыянераў, якая ў 1903 годзе падрыхтавала ў сталіцы Расіі маёвую дэманстрацыю. У часе яе падрыхтоўкі Івана Луцкевіча арыштоўваюць жандары ў кватэры Ізмайлавічанак з Мінска. Праз ўсё лета 1903 г. яго трымаюць у «Предварилке», дзе ён прымае ўдзел у палітычнай галадоўцы. Зусім знясіленага ад голаду яго пераводзяць у «Кресты», дзе памяшчаюць у бальніцу ў аддзел сухотнікаў. І згэтуль, трэба думаць, у яго арганізм трапляюць зачаткі хваробы, якая пазней давяла яго да дачаснай магілы...

У 1904 ГОДЗЕ Іван Луцкевіч канчае археалагічны інстытут і атрымлівае камандзіроўку дзеля навуковых доследаў у родную Беларусь і далейшае навукі ў Вену, куды ў тым жа годзе і выязджае. Там ён працуе ва універсітэце «Slavisches Seminar» пад кіраўніцтвам прафесара Ягіча. У Вене ён друкуе ў часопісах цэлы шэраг навуковых работ аб беларусах, грунтоўна вывучае старажытную гісторыю Беларусі.

У паваротным падарожжы з Вены Іван Луцкевіч заязджае ў галоўны цэнтр украінскага руху — Львоў, для знаёмства з украінцамі. Тут ён сустракаецца са знаным дзеячам украінскага нацыянальна-адраджэнскага руху уніяцкім мітрапалітам Шаптыцкім, з якім завязвае сувязь.

**У Варшаве, Кракаве, Львове ён знаёміцца і з польскімі вучонымі — гісторыкамі, археолагамі і краязнаўцамі. За мяжой ён сыходзіцца з кіраўнікамі ППС (Польскай Партыі Сацыялістычнай), і пры іх дапамозе ладзіць выданне беларускіх сацыялістычных брашур і дастаўку іх кантрабандай у Беларусь.**

**На пачатку 1905 г. Іван Луцкевіч зноў прыязджае ў Пецярбург для заканчэння навукі на юрыдычным факультэце. Затым ён з мандатам Беларускай Сацыялістычнай Грамады адпраўляецца на з'езд прадстаўнікоў сацыялістычных партый «усяе Расіі» і іншых краін у Фінляндыю. Гэта першае міжнароднае выступленне беларускага народа ў XX ст. у асобе палітычнай партыі. У Фінляндыі на з'ездзе Іван Луцкевіч сустракаецца з супрацоўнікамі Ірландыі, якія выказалі свой шчыры спогад беларускім саратнікам у памкненні да волі і пазней прыслалі ім прывітанне і адзнаку Ірландыі — зялёны трылісник, а таксама невялікую суму грошай для выдавецтва перыядычных выданняў.**

У пачатку 1906 г. з прычыны праследавання ўладаў Іван Луцкевіч пераязджае з Мінска ў Вільню, дзе жыве ўвесь час нелегальна пад псеўданімам «Іван Міхальчык». Поруч з ім на ніве адраджэння працуюць ягоны малодшы брат Антон, В. Іваноўскі, А. Уласаў, А. Цётка, А. Бурбіс, К. Каганец, А. Трэпка, Ф. Стацкевіч, Ф. Умястоўскі і інш.

У Вільні пачаўся новы перыяд дзейнасці Івана Луцкевіча, які ў першую чаргу ставіў сваёй задачай прыцягнуць да беларускага руху шырэйшыя рады моладзі. Яму ўдаецца зрабіць уплыў на праваслаўную духоўную семінарыю, дзе ён чытае лекцыі аб беларусах і беларускім адраджэнні. З выпускаў 1906—1908 гадоў амаль усе вучні семінарыі пайшлі не ў духоўны стан, а ва універсітэты і далей прынялі чынны ўдзел у беларускай нацыянальнай працы. Гуртавалася каля Івана Луцкевіча і моладзь свецкіх віленскіх школ і студэнты універсітэтаў, даючы ўсё новых працаўнікоў на народную ніву. Урэшце, шырокую арганізацыйную і адукацыйную работу ён вядзе па арганізацыі народных настаўнікаў, якіх збірае на патайныя з'езды ў Вільні.

...У студзені 1906 г. Беларуская Сацыялістычная Грамада правяла другі свой з'езд, на якім была абмеркавана справа зямельная. У палітычным пытанні з'езд пастанавіў змагацца за перабудову Расіі на аснове федэралізму, падкрэсліваючы ў першую чаргу аўтаномію Беларусі, сфедэраваную з Літвой, Латвіяй і Украінай.

Далейшая арганізацыйная праца БСГ у выніку паліцэйскага праследавання наперад не пасунулася. Але БСГ выдала беларускія заклікі і брашуры рэвалюцыйнага і палітычнага зместу і шырыла іх сярод беларускага пралетарыяту і сялянства. Захопленае рэвалюцыйным рухам, дзякуючы працы сярод яго прадстаўнікоў БСГ, беларускае сялянства засыпала першую і другую Дзяржаўныя Думы наказамі, патрабуючы зямлі, аўтаноміі Беларусі, нацыяналізацыі школы і г. д.

РЭВАЛЮЦЫЯ 1905—1907 гадоў прынесла пэўныя палёгкі для народаў Расіі, у тым ліку і для беларусаў. Галоўным з іх было скасаванне ў 1905 годзе забароны беларускага друку, якае трывалася ад 1865 года. Іван Луцкевіч першы выкарыстаў гэта: ён згуртаваў некалькі беларускіх пісьменнікаў і крытыкаў (Цётка (Кейрысовая), Умястоўскі, Антон Луцкевіч і інш.) і арганізаваў першую беларускую легальную газету «Наша Доля», якая выйшла 1 верасня 1906 г. за ўласныя грошы Івана Луцкевіча. Калі ж пасля безупынных канфіскацый судовы прыгавор зліквідаваў «Нашу Долю», — з ініцыятывы і за грошы Івана Луцкевіча заснавалася «Наша Ніва», якая сталася цэнтрам беларускай палітычнай думкі і нацыянальнай работы. «Наша Ніва» выходзіла з 10 лістапада 1906 г. да 1915 года...

Сяўба «Нашай Нівы» не прапала дарэмна: кіданыя ёю зярняты нацыянальнай свядомасці пападалі на добры грунт і давалі парасткі. За час ваенных падзей развіццё нацыянальнай свядомасці ў беларускіх народных масах ішло ўсё далей, і калі прабіла часіна вызвалення паняволеных народаў старой Расіі, беларускі народ зразумеў, што і для яго настаў час, і на Усебеларускім з'ездзе ў Мінску ў снежні 1917 года выявіў сваю волю ў кірунку стварэння сваёй незалежнай дзяржавы — Беларускай Рэспублікі.

...Без помачы і чыннага ўдзелу Івана Луцкевіча ў Вільні не абыходзілася ні адно беларускае ідэйнае прадпрыемства — ці то хор беларускі, ці то тэатральная дружына, ці музычна-драматычны гурт, ці падрыхтоўка выбараў у Дзяржаўную Думу. Адбывалася ўсё гэта ў наступных умовах: шукаючы кожны вечар новага начлегу з-за ахранкі ды па некалькі дзён без гарачае стравы, працаваў гэты чалавек цэлыя гады, надрываючы сілы, губляючы здароўе...

**Нягледзячы на цяжкія жыццёвыя ўмовы, Іван Луцкевіч належна бароніць беларускую справу на міжнароднай арэне. У чэрвені 1908 г., напрыклад, ён нелегальна едзе ў Прагу на Ўсеславянскі з'езд студэнтаў, дзе кіруе беларускай секцыяй і цвёрда, не аглядаючыся на магчымыя для яго асобы вынікі, прад усёй Еўропай, прад усім культурным светам дакарае тагачасных валадароў за іх палітыку ў адносінах да беларусаў. «Беларусы ў Празе,— кажа ён з трыбуны,— былі яшчэ 500 гадоў таму. Тады ў іх была багатая літаратура. У самой Празе яны надрукавалі па-беларуску Біблію. Па-беларуску ж надрукаваны быў і Статут Літоўскі. Цяпер прайшло з таго часу 500 гадоў, а пра беларусаў ніхто не знае: чыноўніцкая і панская гаспадарка зрабіла тое, што няма не толькі ніводнай сярэдняй, але і ніводнай ніжэйшай народнай школы, дзе б вучылі па-беларуску!..» Перад прадстаўнікамі ўсіх славянскіх народаў Іван Луцкевіч даказвае, што беларускі народ, не менш ад іншых, мае поўнае права на самастойнае нацыянальнае існаванне.**

На грунце навукі Іван Луцкевіч быў абсалютна вольны ад усякага нацыяналізму. Гэта давала яму магчымасць падтрымліваць пастаянныя зносіны і з расійскім, і з замежнымі вучонымі. Ён абменьваецца сваімі думкамі, экспанатамі сваёй калекцыі, вынікамі навуковых доследаў, цікавымі фактамі і матэрыяламі, значную колькасць якіх ахвотна публікаваў у чужых навуковых выданнях. Але наогул пісаў мала: яго артыкулы і заметкі сустракаюцца ў часопісах вельмі рэдка, і ён любіў лепш даваць матэрыялы беларускім публіцыстам дзеля іх прац.

Апошнія гады перад першай сусветнай вайной, якая застала Івана Луцкевіча ў Вільні, ён выкладаў гісторыю мастацтва ў артыстычнай школе Рыбакова ў Вільні. Ужо пад той час здароўе яго вельмі пагоршала. Апошняе перад вайной падарожжа ў Маскву на з'езд аўтанамістаў-федэралістаў, а пасля ў Пецярбург і Фінляндыю ўзімку 1914—1915 гадоў, у часе якіх Луцкевіч моцна застудзіўся, яшчэ болей падрэзалі яго сілы і прымусілі доўга праляжаць у ложку. Не маючы магчымасці пры ваеннай дыктатуры працаваць на палітычным грунце, Іван Луцкевіч займаецца працай у Беларускім Камітэце помачы пацярпеўшым ад вайны і — галоўным чынам — працай навуковай. Да гэтага перыяду адносіцца і адкрыццё даўно шуканай ім татарскай «святой кнігі» — «Аль Кітаб», пісанай у XVI—XVII стагоддзях арабскімі літарамі па-беларуску, якая дала бясцэнны матэрыял да беларускай філалогіі.

У часе эвакуацыі з Вільні расійскія ўлады хацелі вывезці Івана Луцкевіча ў Расію. Пад яго калекцыю прапанавалі цэлы вагон. Але ён адмовіўся. «Мая павіннасць — заставацца ў родным краі і бароцца за мой народ незалежна ад таго, якія войскі будуць тут гаспадарыць!»,— казаў ён усім. Тады паліцыя памкнулася «рэквізаваць» яго, як і шмат іншых дзеячаў. Гэта прымусіла апошнія ночы не заставацца ў хаце: такім чынам ён усцярогся прымусовае эвакуацыі.

КАЛІ Ў ВЕРАСНІ 1915 г. у Вільню ўвайшлі нямецкія войскі, Івану Луцкевічу ўдалося згуртаваць дэмакратычныя элементы з усіх нацыянальнасцей у мясцовую Раду. Але ў апошні момант нацыяналізм польскай буржуазіі пераважыў, і Рада не ўтварылася.

Другой спробай аб'яднання ўсіх нацыянальнасцей, у якой найбольш чынную ролю адыгралі беларусы, і ў тым ліку Іван Луцкевіч, было ўтварэнне Віленска-Ковенскага Абывацельскага Камітэта, у склад якога ён увайшоў ад беларусаў разам з двума іншымі дэлегатамі і адразу заняў выдатнае месца сваёй энергічнай працай у камісіях, якія выраашалі гаспадарчыя і сацыяльна-культурныя справы краю. На жаль, і гэту спробу аб'яднання разбіў польскі нацыяналізм. І апошняй справай Івана Луцкевіча была спроба арганізацыі міжнацыянальнай палітычнай установы, якая мелася злучыць дэмакратычныя элементы на адной палітычнай платформе. Гэта — «Канфедэрацыя Вялікага княства Літоўскага», якая мела на мэце адбудову старой беларуска-літоўскай дзяржаўнасці. Першы «універсал», выдадзены Канфедэрацыяй у чатырох мовах у снежні 1915 года, напісаны Іванам Луцкевічам. Але і гэту работу хутка заціскае нацыяналізм — гэтым разам літоўскі, перад якім быў польскі.

Але нягледзячы на тое, што з чынных беларускіх нацыянальных працаўнікоў пад нямецкай акупацыяй не апусцілі рук толькі лічаныя адзінкі: браты Луцкевічы, Цётка, —дзякуючы іх самаахвярнай працы зноў пачынае развівацца беларуская нацыянальная работа, у якую ўключыліся маладыя сілы. Ужо ў лістападзе 1915 г. у Вільні адкрываецца першая беларуская пачатковая школа, следам за якой у 1916 годзе прыбывае яшчэ пяць. А ў снежні 1915 з ініцыятывы і стараннямі Івана Луцкевіча і Цёткі адкрываюцца беларускія настаўніцкія курсы, на якіх Іван Луцкевіч выкладае пазнанне роднага краю, захопліваючы слухачоў сваімі гарачымі, высокапатрыятычнымі прамовамі, начытанасцю, грунтоўнымі тэарэтычнымі ведамі ў галіне філалогіі, эканомікі, археалогіі, юрыспрудэнцыі, гісторыі, краязнаўства, у фінансавых пытаннях і гаспадарчых справах. Як школьнай, так і ўсёй эканамічнай работай у Вільні кіруе тады Беларускі Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны, адным з найбольш актыўных членаў каторага быў Іван Луцкевіч.

Улетку 1916 года працай Івана Луцкевіча ладзіцца «Беларускі клуб», які аднагалосна выбірае яго за свайго старшыню. У гэты час Іван Луцкевіч лічыць, што ўжо настаў час рэалізацыі тых нацыянальных ідэалаў, якія ён хаваў у душы праз усё сваё жыццё. Добра таксама разумее, што такая работа магчыма толькі ў той часці Беларусі, якая ўжо вырвана з-пад старое няволі. Вось чаму ў той час ён энергічна бароніць ідэю супольнага дзяржаўнага будаўніцтва з літоўцамі, верачы, што тое ядро арганізацыі, якое будзе створана па гэты бок фронту, прыцягне да сябе і рэшту беларускіх зямель у складзе з беларускай Віленшчынай і Гарадзеншчынай. Але падняцце справы дзеля адбудовы Беларуска-Літоўскае дзяржавы не ўваходзіла ў «нямецкія» планы.

Непрыхільнасць да Івана Луцкевіча з боку акупацыйнай улады ўзрасла пасля яго выступлення на З'ездзе народаў у Лазане, які адбыўся ў чэрвені 1916 года, дзе ён у якасці галавы беларускай дэлегацыі «не апраўдаў» спадзяванняў нямецкага ўрада, які даў яму дазвол на паездку. Чыста незалежніцкае становішча яго на з'ездзе псавала сам план «праглынуць» малую Літву. Таму немцы на занятай імі тэрыторыі скіравалі ўсе свае магчымасці на тое, каб разваліць усе беларускія ўстановы.

**Калі нямецкі ўрад пачынае арганізацыю літоўскай Тарыбы на крыўдных умовах для беларусаў, Іван Луцкевіч востра пратэстуе супраць гэтага гвалту, выказвае ініцыятыву стварэння свайго нацыянальнага прадстаўніцтва. Акрамя таго, усё беларускае грамадзянства масава выступае проці эміграцыйнага трактавання беларусаў на тэрыторыі, на якой яны лікам былі блізка роўнымі літоўцам. На мітынгу, скліканым сацыялістычнымі партыямі ўсіх нацыянальнасцей, прамоўцы ад беларусаў, а між імі і Іван Луцкевіч, востра кляймяць палітыку акупантаў і тых літоўцаў, якія пайшлі на пагадненне з імі. Пасля літоўскай канферэнцыі і ўтварэння Тарыбы ў Беларускім Клубе пад кіраўніцтвам Івана Луцкевіча адбываецца другі мітынг — спецыяльна беларускі, які выносіць рэзалюцыю пратэсту супраць згаданых адносін да беларусаў і патрабуе, каб нямецкія ўлады дапусцілі скліканне ў Вільні беларускай нацыянальнай канферэнцыі дзеля ўтварэння беларускага прадстаўнічага органа.**

Нястомна працуе Іван Луцкевіч у час Беларускай канферэнцыі, якая адбывалася ў Вільні 25—27 студзеня 1918 года. Тым часам ён атрымлівае вестку, што за ваенным кардонам—у Мінску—памерла яго маці, страта якой цяжка адбілася на ягоным асабістым жыцці... Канферэнцыя выбрала Івана Луцкевіча ў склад Беларускай Рады—галоўнага прадстаўніцтва беларусаў у межах старой акупацыі. Ад імя апошняй ён з чатырма таварышамі едзе ў Мінск, які праз дзень ужо быў заняты немцамі, і прымае з братам Антонам чынны ўдзел у гістарычным пасяджэнні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі 24—25 сакавіка 1918 г.

Гэта быў момант найвялікшага шчасця ў жыцці Івана Луцкевіча, і ён, вярнуўшыся ў Вільню ды прадчуваючы недалёкую смерць, гаварыў, што «цяпер мы, старыя работнікі беларускія, можам спакойна паміраць: ёсць каму замяніць нас у працы!»

Працуючы астаткамі сіл, Іван Луцкевіч у 1919 годзе—апошнім у яго жыцці—цяжка ўжо хворы на сухоты, яшчэ нямала працуе дзеля здзяйснення сваёй вялікай думы адчынення ў Базыльянскіх мурах Беларускай Гімназіі. Але ён ужо не мае сіл хадзіць на свае лекцыі ў гімназію... І хвораму яму палітычныя ворагі не даюць спакою: на аснове фальшывых даносаў у хаце адбываецца рэвізія за рэвізіяй. А за два дні перад прыходам палякаў да Луцкевіча з'яўляюцца бальшавікі—для арышту. Толькі ўбачыўшы яго стан, яны пакідаюць Луцкевіча дома. Змучанага Івана Луцкевіча блізкія таварышы вывозяць у Закапанэ ў чэрвені 1919 года, а 20 жніўня таго ж года Іван Луцкевіч назаўсёды расстаецца на чужыне з гэтым светам.

Так жыў і так памёр творца тагачаснага беларускага руху.



Іван Луцкевіч з сёстрамі Марыяй, Стасяй і Эміліяй.

ПОГЛЯДЫ ЛУЦКЕВІЧА на палітыку—як сусветную, так і расійскую—былі вынікам яго стаўлення да беларускай справы. Ён, добры палітык, пры ўсякіх магчымасцях, пры ўсякіх кірунках грамадзянскай палітычнай думкі праводзіў сваю лінію—лінію адраджэння беларускага народа і працаваў у грамадскіх арганізацыях пры ўсякіх умовах і пры ўсякіх праўленнях, а апошніх было шмат і хутка пераменлівых. Быў расійска-царскі ўрад, быў нямецкі, быў расійска-савецкі, быў панска-польскі. У часы царскага ўрада ён быў моцны рэвалюцыянер, прымаў гарачы ўдзел у рэвалюцыйнай справе на Беларусі. Пры немцах ён не пакідае сваёй працы, прымае ўдзел ці не ва ўсіх грамадскіх арганізацыях у Вільні, нязменна праводзячы лінію пад лозунгам непадзельнасці і незалежнасці Беларусі. Пры савецкім урадзе ён, хоць і хворы, усё ж працуе. Да гэтага ўрада і яго рэформаў ён адносіўся хоць і крытычна, аднак спагадліва, і стаяў на тым грунце, што Беларусі патрэбна «ўлада радаў»: «Шчырая дэмакратызацыя краю, якая праводзіцца Радавай Уладай, павінна прывесці да нацыянальнага адраджэння Беларусі». Але разам з тым удакладняў, што да той пары, пакуль беларус не пачуе сябе раўнапраўным з усімі людзьмі чалавекам, да той пары, пакуль горад беларускі не будзе інтэлектам беларускай вёскі, пакуль інтэлігенцыя беларуская не станецца неразрыўнай часткай беларускага народа і не будзе мець «супольнага языка» з народам, пакуль народ беларускі не зробіцца гордым прадстаўніком сваёй культуры, —датуль усе гэтыя рэформы дарэмныя, бо народ іх не зразумее, не здолее ўсвядоміць.

Найвышэйшай ідэяй у жыцці і дзейнасці ягонай была Беларусь ува ўсёй сваёй паўнаце, а ягоным адзіным святым абавязкам—няўтомнае змаганне за поўнае яе адраджэнне і вызваленне, за яе ўласны дзяржаўны быт. Справядліва ж ацаніць працу Івана Луцкевіча здолее толькі будучыня, калі гісторыкі беларускага нацыянальнага адраджэння раскрыюць усе архівы і дойдуць да самых крыніц руху: тады яны пераканаюцца, што гісторыя сучаснага беларускага руху — гэта і гісторыя жыцця Івана Луцкевіча.

# Адкрыты ліст

## народных дэпутатаў Беларускай ССР, сяброў Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны да Старшыні Савета Міністраў БССР КЕБІЧА В. Ф.

Паважаны Вячаслаў Францавіч!

Не сакрэт, што ажыццяўленне Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай і іншых нацыянальных моў у БССР, якая прадугледжвае пашырэнне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, замацаванне яе дзяржаўнага статуса ў Беларускай ССР магчыма пры актыўным удзеле грамадскасці рэспублікі, грамадска-культурных арганізацый — Таварыства беларускай мовы і іншых аб'яднанняў прыхільнікаў беларускай культуры. Аднак вядома, што грамадскае аб'яднанне дзеяздольнае толькі тады, калі мае адпаведную матэрыяльную аснову. Менавіта з мэтай стварыць яе Рэспубліканская Рада ТБМ імя Ф. Скарыны неаднаразова выходзіла з прапановамі ў Савет Міністраў БССР скасаваць падаткі на прыбытак і іншыя выплаты ў дзяржбюджэт арганізацый і прадпрыемстваў Таварыства. Толькі пры гэтай умове мэтазгодна і магчыма стварэнне пры ТБМ або ў яго складзе некаторай абмежаванай колькасці малых прадпрыемстваў, вытворчых участкаў, адпаведных профілю культурна-асветнай арганізацыі.

Кіраўніцтва Савета Міністраў БССР не магло не ведаць, што, нягледзячы на прынятыя ўрадам пастанову № 56 «Пытанні Таварыства беларускай мовы» і пастанову № 161 «Аб асобных пытаннях падаткаабкладання прадпрыемстваў (аб'яднанняў) і арганізацый на тэрыторыі БССР», Таварыства беларускай мовы, не маючы пачатковага капіталу, сродкаў вытворчасці і матэрыяльных рэсурсаў, не вызваленае поўнасцю ад уплаты падаткаў, не можа самастойна займацца прадугледжанай статутам выдавецкай і іншай гаспадарчай дзейнасцю, накіраванай у канчатковым выніку на адраджэнне беларускага слова. У той жа час рашэннем Савета Міністраў БССР не толькі творчыя саюзы рэспублікі, але нават такая арганізацыя, як Саюз юрыстаў БССР разам з усімі ўваходзячымі ў яе склад і зарэгістраванымі пры ёй прадпрыемствамі і аб'яднаннямі, цалкам вызвалена ад падаткаў на прыбытак і падаткаў з абароту.

Такім чынам, не ўпершыню грамадскасць Беларусі становіцца сведкай таго, як, галасуючы адной рукой за адраджэнне беларускай мовы, беларускі ўрад другой рукой прыпыняе грамадскія ініцыятывы, якія служаць гэтай высакароднай мэце.

У гэтай сувязі, патрабуючы ад урада поўнага і ў шэрагу выпадкаў паскоранага ажыццяўлення Закона аб мовах у Беларускай ССР, звяртаемся да Старшыні Савета Міністраў БССР з прапановай неадкладна вырашыць пытанне і аб дзяржаўнай падтрымцы грамадскага руху, накіраванага на адраджэнне беларускай мовы. Ва ўмовах абвастрэння сацыяльна-эканамічнага крызісу і пераходу на рынкавыя адносіны сяброўскія складкі і дабрачынныя ўклады на карысць ТБМ арганізацый, прадпрыемстваў і грамадзян рэспублікі не могуць быць дастатковымі для стварэння матэрыяльнай асновы Таварыства.

Паважаны Вячаслаў Францавіч! Прыйшоў час пацвердзіць сваю адданасць Бацькаўшчыне стварэннем умоў для паскоранага ажыццяўлення Закона аб мовах у Беларускай ССР! Гэтаму, як вядома, паслужыць і актывізацыя дзейнасці Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Аднак дзеля гэтага неабходна:

— перадаць на баланс ТБМ 1—2 фабрыкі мастацкіх вырабаў (як было зроблена раней на карысць Беларускага фонду культуры);

— перадаць ТБМ друкарскае, памнажальнае і камп'ютэрнае абсталяванне разам з вытворчымі плошчамі для выпуску малатыражных выданняў, плакатаў і іншай друкаванай прадукцыі на беларускай мове;

— забяспечыць магчымасць стварэння і трансляцыі па рэспубліканскім тэлебачанні штотыднёвай перадачы на аснове моўна-культурнай спадчыны Беларусі, а таксама дзейнасці ТБМ і іншых грамадска-культурных арганізацый на ніве беларускага адраджэння;

— перадаць ТБМ аўтобус, абсталяваны гукаўзмацняльнай апаратурай і відэатэхнікай, дзеля пашырэння асветніцкай дзейнасці Таварыства;

— выдзеліць у г. Мінску памяшканні для рэдакцыі газеты ТБМ «Наша слова» і для беларускага культурнага цэнтра, які мяркуецца абсталяваць відэатэхнікай, кінаўстаноўкай, забяспечыць народнымі музычнымі інструментамі, бібліятэчкай беларускіх выданняў і інш., і выкарыстоўваць у асветніцкай дзейнасці Таварыства;

— прадугледзець выдзяленне па ліміту паперы, фарбы і інш. для паскоранага выдання Таварыствам дэфіцытных кніг на беларускай мове.

Разам з тым, запрашаем Вас, паважаны Вячаслаў Францавіч, выступіць на маючым адбыцца 14—15 чэрвеня г. г. у Мінску II з'ездзе Таварыства беларускай мовы і паведаміць прыхільнікам беларускага слова, пасланцам бадай ці не ўсіх рэгіёнаў Беларусі, людзям розных палітычных перакананняў і сацыяльных груп насельніцтва рэспублікі аб дзейнасці беларускага ўрада па адраджэнні беларускага слова, ажыццяўленні Закона аб мовах у Беларускай ССР і Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР.

З павагаю

**Я. ЦУМАРАЎ, Л. ДЗЕЙКА, А. ТРУСАЎ, Л. БАРШЧЭЎСКІ, П. САДОЎСКІ, А. ВЯРЦІНСКІ, В. ГАЛУБОВІЧ, А. ЛЯБЕДЗЬКА, А. ДАЎЛЮД, М. КРЫЖАНОЎСКІ.**

СПРЭЧКІ, ПАЛЕМІКА

# ЭКСГУМАЦЫЯ ГІСТОРЫІ

У пяці красавіцкіх нумарах органа ЦК КПБ газеты «Звязда» (№№ 73—78) пад назвай «Ідэал і трагедыя рэчаіснасці» друкаваўся артыкул супрацоўнікоў Інстытута гісторыка-палітычных даследаванняў КПБ кандыдата юрыдычных навук Ю. Смірнова і кандыдата гістарычных навук М. Сташкевіча. Тэма — «Ленін, камуністы, рэвалюцыйнае насілле і законнасць» падаецца пад рэдакцыяй дырэктара інстытута, доктара гістарычных навук, прафесара Р. Платонава — відаць, для саліднасці. Хоць у тым, што апалогію камуністычнага насілля рэдагуе доктар па навуковым атэізме, ёсць пэўная логіка.

Артыкул пачынаецца з тлумачэння прычын яго публікацыі зараз: «На новым крутым вітку грамадскага развіцця сілы, якія імкнуцца да ўлады, злосна атакуюць Леніна і камуністаў. Мэта відавочная: дыскрэдытаваць саму сацыялістычную ідэю і яе носьбітаў, падарваць дамініруючую ролю КПСС у нашым грамадстве...» (Дарэчы, прызнаюся, мяне кожны раз збівае з панталыку тая, відаць, салодкая для партыйных публіцыстаў інтанацыя прысуду, з якой яны гавораць пра «сілы, што імкнуцца, рвуцца і г. д. да ўлады». Ірвенне да ўлады супроцьзаконнае і можа быць асуджана з маральнага боку толькі пры абсалютнай манархіі—там карона перадаецца ў спадчыну па праву нараджэння. Няўжо спадары—тайныя дзеці дома Раманавых?)

Мазаіка цытат, прыкладаў, дыялектычных ацэнак падабрана з адмысловым класавым густам (партыйнасць пранікла нават у сінтаксіс, словы «насілле, жорсткасць» у дачыненні да бальшавікоў ужываюцца ў класавым двукоссі — крый Божа, чытач падумае, быццам было нейкае сапраўднае насілле).

Перадавы метад дазваляе аўтарам адкрыць нямала цікавага, невядомага раней. Скажам, высвятляецца, што хоць Ленін і не выключаў тэрор, але лічыў, што ён павінен быць абмежаваны «мінімальнейшым мінімумам» і «нястомна звяртаў на гэта ўвагу камуністаў». Паколькі аўтары далей прыкладаў не прыводзяць, запоўнім прагал хоць бы радкамі з пісьма Зіноўеву 26 чэрвеня 1918 г.: «Надо поощрять энергию и массовидность террора против контрреволюционеров, и особенно в Питере, пример коего решает» (ПЗТ. Т. 50, ст. 106). Сталіну на Царыцынскі фронт: «Повсюду необходимо подавить этих жалких и истеричных авантюристов... будьте беспощадны против левых эсеров и извещайте чаще» («Правда», 21.I.1936). Сталін адказаў па-сталінску: «Будьте уверены, что у нас не дрогнет рука» (Сталин И. В. Соч. Т. 4, с. 118).

Дарэчы, тым, хто лічыць, што Вавілава, Мандэльштама, Цішку Гартнага, Лёсіка, Ластоўскага знішчыў Сталін, раю адкрыць 51 том на ст. 48. Там гаворыцца пра інтэлігентаў, «мнящих себя мозгом нации. На деле это не мозг, а говно». Удакладню, што гэта збор твораў не Гітлера, Мао, Пол Пота, а генія з сакратаўскім ілбом. Зараз, гавораць, рыхтуецца новае 70-томнае выданне, дзе, можна не сумнявацца, адкрыюцца новыя, схаваныя дагэтуль рысы найчалавечнага чалавека. Але і ў традыцыйным, 55-томным, нямала цікавых пастаноў, тэлеграм і пісьмаў з указаннямі расстрэльваць жанчын, знішчаць духавенства, браць заложнікаў і г. д.—пагартайце.

Парада адрасуецца, безумоўна, не аўтарам артыкула ў «Звяздзе». Выказванняў правадыра, накшталт узгаданых, ім упэўнены, вядома куды больш. Яны нават прызнаюць скрыўленні ў «фарватары агульнай гуманістычнай лініі». Толькі бачаць іх у іншай перспектыве ды тлумачаць «дыялектычна». З аднаго боку, рэвалюцыя сама вінаватая, бо нясе «магчымасць бесчалавечнасці» (калі так, дык, можа, не варта рабіць тое, што бесчалавечна? А апраўдваць сёння бесчалавечнасць— чалавечна?) З другога,— вінаватыя масы, бо супраціўляліся рэвалюцыі, і бальшавікі вымушаны былі ўзмацняць меры ў адказ. І ўвогуле, народ амаль добраахвотна заплаціў такую высокую цану за «свой выбар» (хоць і ў дужках, аўтары прыводзяць схаваную раней у архівах лічбу: «у 1922—23 гг. паводле даных НКУС БССР у рэспубліцы дзейнічалі дзесяткі бандыцкіх атрадаў, якія аб'ядноўвалі амаль 40 тысяч чалавек». Гэта—пасля грамадзянскай вайны, акупацыі, пры знакамітым ленінскім НЭПе. Вось дык «свой» выбар!) З трэцяга,—жорсткасць рэвалюцыі можна калі не апраўдаць, дык растлумачыць: ідзе спасылка на вядомы артыкул А. Блока «Інтэлігенцыя і рэвалюцыя». А чацвёртую пасылку аўтараў трэба цытаваць цалкам: «Крытыка зброяй», да якой вымушаны былі звярнуцца бальшавікі, безумоўна і цалкам апраўдвалася абстаноўкай грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі, найвастрэйшага класавага проціборства, з якім сутыкнулася рэвалюцыйная Расія».

У такім допуску—«апраўдвалася абстаноўкай»—усё. Ад пакутлівай смерці 14-гадовага хлопчыка, забітага за прозвішча Раманаў, да пустых чарапоў Курапатаў; ад камісарскага здзеку над вёскай да спаленых жыўцом у вагонах вязняў сталінскіх турмаў, якіх не паспявалі вывезці ад наступаючых немцаў; ад брэжнеўскіх псіхушак і танкаў у Празе да тысяч узарваных, расстраляных, разбомбленых у сваіх хатах няшчасных жыхароў Афганістана.

На маю думку, у аснове ўся крывавая вакханалія таталітарнага рэжыму тлумачыцца адной прычынай: нелегітымнасцю і антынароднасцю ўлады. Бальшавікі ніколі не былі большасцю, ніколі за імі не ішла большасць насельніцтва краіны. Незаконна, падманам і сілай зброі захапіўшы ўладу ў зручны момант («Учора рана, заўтра позна»—узор «навуковага» падыходу да аб'ектыўнай, па Марксу, змены фармацый), яны толькі сілай зброі і падманам маглі яе ўтрымаць, насаджваючы антынародную утопію. Ахрысціўшы разбой дыктатурай пралетарыяту, г. зн. духоўнага і матэрыяльнага люмпена, бальшавікі не маглі не зрабіць дыктатуру адзіна магчымай формай, тыпам дзяржавы, дзе насілле, расправа з іншадумцамі, адсутнасць свабоды слова—норма жыцця.

У спробах аддзяліць Леніна ад жахаў заснаванай ім таталітарнай сістэмы аўтары па традыцыі спасылаюцца і на «ўтоенае ад партыі і народа «Палітычнае завяшчанне», хоць ведаюць: яно не было тайнай для партыйнай «гвардыі». А менавіта яна, а не народ, не партмасы маглі нешта перамяніць. Па-другое, трэба ж, нарэшце, прачытаць, што напісана ў «завяшчанні» менавіта так, як тое ўспрымалася ў свой час, а не цяпер, праз крывавую прызму сталінскай дыктатуры! А Сталін там названы выдатным правадыром, у яго адрас толькі два нават не папрокі, а сумненні: ці зможа ён асцярожна карыстацца неабмежаванай уладай, і грубасць. І гэта ўсё, што Ільіч заўважыў пасля шматгадовай работы разам з бандытам? У апошнім раздзеле «Урок для цяперашняга і будучага» аўтары не саромеючыся заяўляюць, што першай і асноўнай мішэнню сталінскага тэрору сталі «выхаваныя Леніным кадры, бальшавікі ленінскай вывучкі і загартоўкі». І нібы мімаходзь дадаюць: «Ахвярамі неабгрунтаваных рэпрэсій разам з імі сталі многія беспартыйныя: мужчыны і жанчыны, інтэлігенцыя, рабочыя, сяляне, ваеннаслужачыя». Чытаеш і не ведаеш—плакаць, смяяцца? Хочацца бяссільна вылаяцца: закатаваныя народы, мільёны знішчаных людзей удастоіліся цынічнай характарыстыкі «многія беспартыйныя» і ганаровага месца побач з прэзідыумам: «разам з ленінцамі». А класава-антрапалагічны падзел ахвяраў на мужчын, жанчын, інтэлігентаў, рабочых, відаць, завершыцца вылучэннем у асобную групу лысых і картавых...

Але ўсе гэтыя ламентацыі ўзору 1956 года адступаюць перад наступнай заявай Платонава—Смірнова—Сташкевіча: «Мы не маем дакладнай лічбы рэпрэсіраваных у Беларусі. Архіўныя ж даныя сведчаць, што ў 30-я гады ў рэспубліцы па розных палітычных матывах, часцей за ўсё надуманых, было асуджана больш як 20 тысяч чалавек».

Надзвычай трывожыць адвага, з якой гэта сказана і ў 100 тысячах асобнікаў «Звязды» разнесена па свеце. Сказана ж пасля вывадаў урадавай камісіі, якая ў адных толькі Курапатах налічыла не менш як 30 тысяч забітых. Надрукавана пасля леташняга паведамлення той жа «Звязды» (28.07.90), што ўжо на той час у рэспубліцы было рэабілітавана больш чым 63 тысячы чалавек. Прычым сюды не ўключаны дзесяткі, а то і сотні тысяч кулакоў, чэсэіраў і іншых «контрыкаў», з якімі распраўляліся па рашэнні выканкомаў і райкомаў. (У чэрвені 1937 г. на XVI з'ездзе той самай партыі, гісторыю якой даследуюць аўтары артыкула ў «Звяздзе», выступаў сакратар Аршанскага райкома КП(б)Б Р. Соскін, які гаварыў: «Мы налічваем у Аршанскім раёне 8 тысяч ворагаў...» Дзе-дзе, а ў справе падлікаў і вынішчэння «ворагаў народа» слова і справа ў гэтай партыі ніколі не разыходзіліся.)

Усё гэта, разам з кавалерыйскай атакай Мінскага гаркома партыі і мясцовых сталінцаў на Курапаты (публікацыі ў газеце «Мы и время»), наводзіць на трывожныя думкі: што адбываецца з архівамі?

Яны, як вядома, захоўваюцца ў КДБ і доступ туды закрыты нават членам камісіі пры Вярхоўным Савеце па справах рэпрэсій (што КДБ—нават у архівы КПБ—грамадскай арганізацыі не патрапіць). Мы памятаем, як на пачатку гістарычнай галоснасці КДБ захоўваў гордае маўчанне: маўляў, мы нічога не ведаем. Потым пайшлі заявы, што архівы не захаваліся, ці захаваліся не цалкам (хоць даць даведку па канкрэтным запыце маглі за два тыдні). І вось нядаўна старшыня КДБ Кручкоў заявіў у «Правде» (23.01.91), што ў 30—50-я гады было асуджана 3 мільёны 778 тысяч 234 чалавекі, з іх амаль кожны пяты расстраляны. Мяркуючы па дакладнасці, лічба канчатковая і пераглядацца не будзе.

Міжволі паўстае пытанне: ці не знішчаюцца цяпер архівы, як яны знішчаліся ў 50-я? (Расказваў знаёмы, які тады служыў у Магадане, як яны напакоўвалі мяхі карткамі—рашэннямі «троек» на расстрэл—і цягалі іх у кацельню каля архіва абласнога ўпраўлення МДБ. Скардзіўся, што, шчыльна звязаныя, яны дрэнна гарэлі: трэба было доўга варушыць).

А ўсе іншыя думкі, меркаванні, доказы—«на руку толькі тым, хто імкнецца брудную хвалю дамарослага антыкамунізму выкарыстаць у якасці тырана...»

Не хачу больш ні цытаваць, ні аспрэчваць, ні пытацца, чаму вучоная апалогія насілля з'явілася пад час рабочых страйкаў. Падобнае ўжо было: пасля вайны ў Курапатах раскопвалі магілы, каб знішчыць сляды злачынстваў.

**Аляксандр ЛУКАШУК,**
**член камісіі пры Вярхоўным Савеце БССР па справах ахвяраў рэпрэсій 20—50-х гадоў.**

Ганарар перадаецца «Мартыралогу Беларусі».

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

## ЧАРНОБЫЛЬСКІ ПРАЕКТ АБТ

Аб чарнобыльскім праекце Аб'яднаных Біблейскіх Таварыстваў свету распавёў нашаму карэспандэнту выканаўчы дырэктар гэтай арганізацыі, ангельскі місіянер сп. Рычард Уэрдзінг-Дэвіс. Ён наведаў Беларусь у сярэдзіне мая і правёў шэраг сустрэч з членамі рады Біблейскага таварыства Беларусі, праз якое замоўлены праект будзе ажыццяўляцца.

Што маецца ў чарнобыльскім праекце АБТ? Яго складаюць дзве часткі: першая — забеспячэнне вернікаў як забруджаных тэрыторый, так і ўсяе рэспублікі кнігамі Свяшчэннага Пісання, другая — дастаўка лекаў і полівітамінаў у лякарні, дзе знаходзяцца хворыя з забруджаных тэрыторый. Па другім пытанні Р. Уэрдзінг-Дэвіса цікавіла нават колькасць ложкаў у бальніцах, каб дакладна суаднесці аб'ём дапамогі з рэальнымі патрэбамі. Што тычыцца «духоўнай» часткі дабрачыннага праекта АБТ, дык ужо ў маі-чэрвені ў Беларусь паступіць з Англіі 20 тысяч асобнікаў Новага Запавету ў перакладзе на беларускую мову (аўтар перакладу Антон Луцкевіч), іншая рэлігійная літаратура.

## НОВЫЯ АДРАСЫ МІЛАСЭРНАСЦІ

25 мая па запрашэнні вучняў навучальных устаноў горада Міхельштат на канікулы ў Германію выехалі 224 школьнікі з Брагіна, Хойнікаў, Нароўлі, Веткі. Гэтыя гарады, як вядома, знаходзяцца ў зоне, якая найбольш пацярпела ад чарнобыльскай катастрофы. Дзеці з Беларусі правядуць у гасцях у сваіх нямецкіх равеснікаў месяц.

Днямі з ФРГ на Беларусь дастаўлены 5 тон дзіцячага харчавання для пацярпеўшых ад радыяцыйнага забруджання. Гуманітарны груз накіравала арганізацыя «Віламір» з горада Люхаў.

Трэба падкрэсліць, што абедзве міласэрныя акцыі сталі магчымымі дзякуючы дамоўленасці з Беларускім дабрачынным фондам «Дзецям Чарнобыля», які ўзначальвае народны дэпутат БССР Г. Грушавы.

НАШ КАР.

АБ'ЯВА

**БЕЛАРУСКАЯ ОРДЭНА ДРУЖБЫ НАРОДАЎ ДЗЯРЖАЎНАЯ КАНСЕРВАТОРЫЯ ІМЯ А. В. ЛУНАЧАРСКАГА**
абвяўляе конкурс на замяшчэнне вакантнай пасады прафесарска-выкладчыцкага складу (для тых, хто мае мінскую прапіску):

— кафедра фартэпіяна: старшы выкладчык — 1.

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання аб'явы.

Заявы і дакументы згодна Палажэнню аб конкурсах накіроўваць на імя рэктара на адрас: 220600, г, Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30. Даведкі па тэл.: 27-49-42, 26-06-70.

Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне народнаму паэту Беларусі Максіму ТАНКУ з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці дачкі Веры Яўгенаўны.

ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ—33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ—33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.



Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12